


Дзень Маці
стар. 2

# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 39 (352) 10 — 16 кастрычніка 1998 г. КОШТ 3500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •

## ПАДАРУНАК!



Леанід Шчамялёў (справа) і Васіль Шаранговіч

***Музей сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі атрымаў першы падарунак: карціну "Лістапад" ад аўтара — народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Леаніда Шчамялёва. З гэтай нагоды 8 кастрычніка ў музеі адбылася прэс-канферэнцыя.***

# ЁСЦЬ МІЖНАРОДНЫ ФОНД "КРЭВА"!

**9 кастрычніка ў мястэчку Крэва Смаргонскага раёна адбылася Міжнародная навуковая канферэнцыя "Крэва. Гісторыя і сучаснасць". У канферэнцыі ўзялі ўдзел старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, выдатны літоўскі вучоны-даследчык Іонас Глямжа, польскі архітэктар-рэстаўратар, прафесар Тадэвуш Поляк, народны артыст Беларусі Валянцін Белахвосцік, старшыня Смаргонскага райвыканкама Мікалай Кавалёў і іншыя.**

**Падчас канферэнцыі адбыўся арганізацыйны сход па стварэнні Міжнароднага фонду "Крэва". Вось што паведаміў з гэтай нагоды У.Гілеп:**

**"Дадзенае мерапрыемства ўваходзіць у якасці складніка ў праграму Беларускага фонду культуры "Малыя гарады і паселішчы Беларусі". Гэтая праграма пачыналася даўно, і наш фонд штогод яе працягваў. У 1996 годзе я наладзіў у гарадскім пасёлку Копысь, што на Аршаншчыне, аналагічнае мерапрыемства. Копысь — гэта адно з самых старажытных мястэчак на Беларусі. Старажытнае гарадзішча, так званы "Пятроўскі вал", узнікла яшчэ ў XI стагоддзі на левым беразе Дняпра. А ўпершыню ў пісьмовых крыніцах яно ўзгадваецца ў 1059 годзе ў складзе Полацкага, потым Смаленскага княстваў. Шырока вядомая ва ўсім свеце копыская кафля, з якой выкладваліся печы не толькі на Беларусі, але і ў Маскве, Варшаве, Празе. Нашай марай было адрадзіць кафлевую мануфактуру і пабудаваць нават невялікі заводзік. Але надышлі іншыя часы, і наша мара пакуль засталася няспраўджанай. Пакуль...**

**У 1997 годзе ў Слуцку была праведзена навуковая канферэнцыя "Слуцкія паясы" з запрашэннем слынных навукоўцаў-даследчыкаў у гэтай унікальнай для сусветнай культуры галіне.**

**І вось цяпер — канферэнцыя ў Крэве, галоўнай задачай якой з'яўляецца стварэнне спецыяльнага Міжнароднага фонду. Наш фонд мае сваю спецыфіку. Ён будзе займацца не толькі і, магчыма, не столькі зборам сродкаў на рэстаўрацыю Крэўскага замка, а акумуляцыяй ведаў. Растлумачу, што гэта значыць. Справа ў тым, што ўсе архітэктурныя даследаванні замка XIV стагоддзя, пабудаванага князямі ВКЛ Гедымінам і Альгердам, знаходзяцца ў нас, на Беларусі; архівы — у Літве, а ўсе рэстаўрацыйныя працы ў 30-я гады вялі палякі. Такая вось цікавая сітуацыя. Нам хацелася б сабраць усе "веды" трох краін разам, вывучыць і апублікаваць усю гэтую дакументацыю. І калі не мы, дык наступнае пакаленне на гэтай падставе здолее здзейсніць рэстаўрацыю гэтага унікальнага помніка архітэктуры.**

**Безумоўна, у першапачатковым выглядзе аднавіць замак цяжка. І справа не толькі ў велізарных сродках. Тэхналогія пабудовы замка (з выкарыстаннем спецыяльных раствораў) была унікальная і настолькі складаная, што аднавіць усё ў былым выглядзе немагчыма. Але, тым не менш, "абнавіць" замак хаця б для пачатку — неабходна.**

**У праграме Фонду яшчэ і стварэнне музея ў Крэве, дзе маглі б знайсці адлюстраванне не толькі гісторыя замка, але і народная творчасць Смаргонскага рэгіёна, што ўвабрала ў сябе талент майстроў амаль усіх канфесій, якія існавалі на гэтай зямлі. Што для гэтага патрэбна? Толькі тры рэчы: жаданне, сродкі і спецыялісты-музейшчыкі. Пустая хатка побач з замкам — ёсць. Спецыялісты — ёсць. Разуменне з боку мясцовых уладаў — таксама. Ну, а далей паспрабуем закумуляваць сродкі трох зацікаўленых краін — Беларусі, Польшчы і Літвы...**



***...Усе архітэктурныя даследаванні замка XIV стагоддзя, пабудаванага князямі Вялікага княства Літоўскага Гедымінам і Альгердам, знаходзяцца ў нас, на Беларусі; архівы — у Літве, а ўсе рэстаўрацыйныя працы ў 30-я гады вялі палякі. Такая вось цікавая сітуацыя. Нам хацелася б сабраць усе "веды" трох краін разам.***

№ 39 10 — 16 кастрычніка 1998 г.



**Калонка "пра набалелае"**

# УВАГА: ЮНЫЯ ДУШЫ

**Не ідзе з галавы гэты страшэнны, трагічны факт, што меў нядаўна месца ў Гомелі: трое падлеткаў кінуліся разам уніз з даху шматпавярховага дома і разбіліся насмерць. Не ідзе з галавы, жыва ўяўляецца гэты жахлівы малюнак: падаюць каменем, ляцяць уніз падбітымі птушкамі-падранкамі юныя чалавечкі. Ці то зачараваныя смерцю, ці то даведзеныя да роспачы, адрынутыя жыццём (што ўвогуле адно і тое ж). Падобнае перажыванне зведаў тры гады таму, калі раптам даведаўся: з даху дзесяціпавярховага дома, дзе я жыву (гэта па вуліцы Захарава), быў гвалтоўна скінуты школьнік-падлетак, які жыў у суседнім пад'ездзе. Доўга на тое месца, дзе ён упаў, бацькі ставілі слоік з жывымі кветкамі...**

**Вось вам і... "чалавек створаны для шчасця, як птушка для палёту", вось вам і..."гэй, узвейце сваім крыллем, арляняты, буйна, бурна", вось вам і... "кожнае дзіця мае неад'емнае права на годнае жыццё, ахову і ўмацаванне здароўя".**

**Мне невядомыя падрабязнасці гомельскай трагедыі. Невядома, — у друку нічога пакуль што не паведамлялася, — што тоіцца за ёй, якія матывы. Рытуальнае самазабойства? Групавы пратэст? Некім спланаваная злачынная акцыя? Следства працягваецца. Але адно для мяне несумненна: трагедыю можна было папярэдзіць, прадухіліць. І зрабіць гэта — прадугадаць, засцерагчы, прадухіліць небяспеку, прыйсці ў час на дапамогу, — маглі толькі мы, дарослыя. Нам усім нялёгка ў гэты трывожны, хутказменлівы час — з яго няпэўнасцю і няўпэўненасцю ў заўтрашнім дні.**

**Але ў нас ёсць жыццёвыя досвед і мудрасць, мы валодаем належнай маральнай і грамадзянскай загартоўкай, у нас выпрацаваўся, у дадатак да прыроджанага, імунітэт супраць розных сацыяльных хвароб. І мы з усімі гэтымі сваімі "дарослымі" якасцямі закліканы быць сёння максімальна чуйнымі, уважлівымі ў дачыненні да сваіх юных суграмадзян — сваіх дзяцей і ўнукаў, сваіх малодшых братоў і сясцёр.**

**Калі б, думаю, за некалькі дзён, за які дзень-другі, за якую-небудзь гадзіну і нават хвіліну да таго, як патэнцыйныя юныя самазабойцы прынялі сваё канчатковае пагібельнае рашэнне, хтосьці з дарослых звярнуў на іх увагу, звярнуў увагу на змены ў іх паводзінах, на іх душэўны стан і адпаведным чынам зрэагаваў — загаварыў, спытаўся, знайшоў добрае, мудрае слова, прывёў павучальны жыццёвы эпізод ці мастацкую прыпавесць, то... Калі б, думаю, — крыху ўжо з іншай оперы, — яны пачулі, перад сваім фатальным учынкам, па радыё, з экрана тэлевізара, з касеты магнітафона адпаведную мелодыю, песню, паэтычны радок, сцэнічны маналог, то... То, магчыма, то, напэўна, перайгралі б сваё рашэнне, адолелі б у апошні міг стан адчужанасці і безвыходнасці і засталіся б жыць.**

**Амерыку, відаць, я тут не адкрываю. Не адкрывалі і засвойвалі да нас вядомыя свету педагогі, псіхолагі, медыкі. Амерыканец доктар Спок зазначаў, што дзеці часам ідуць на безразважныя, адчайныя ўчынкі з-за адсутнасці ўвагі і любові да іх. А француз Альфрэд Бінэ яшчэ сто гадоў таму пісаў у сваёй кнізе "Сучасныя ідэі пра дзяцей" аб праблемах "псіхалагічнай прыстасавальнасці дзяцей". На сённяшні дзень, ва ўмовах сучаснай грамадска-палітычнай сітуацыі гэтыя праблемы праяўляюцца з асаблівай вастрынёй.**

**У сувязі з нядаўнім Днём настаўніка ў сродках масавай інфармацыі расказвалася пра мінскую гімназію № 7. Мне даводзілася ў ёй бываць. Я быў знаёмы з яе былым дырэктарам (тады яна яшчэ называлася СШ № 54), знаёмы з сённяшнім, з Лідзіяй Міхайлаўнай Лізанец, з некаторымі настаўнікамі. І магу пацвердзіць, што дзецям тут сапраўды добра, цікава, што яны ахвотна ідуць у гімназію і не спяшаюцца яе пакідаць. І тлумачыцца гэта тым, што дзеці ў гімназіі не толькі набываюць веды, але яшчэ атрымліваюць урокі людскога супольнага жыцця, узаемных зносін, урокі самастойнасці і самакіравання, вучацца быць свядомымі, актыўнымі, годнымі грамадзянамі сваёй краіны. Інакш кажучы, дзяцей тут не пакідаюць у небяспечнай для іх адзіноце...**

**... Новае пакаленне выбірае не толькі пепсі і папсу, не толькі тэлевізар і камп'ютэр, не толькі дыскатэку і замежныя баевікі ды трылеры. Новае пакаленне выбірае і нешта больш істотнае, жыццёва важнае, выбірае свой шлях, сваё месца ў жыцці. З усіх варыянтаў яно хацела б, натуральна, выбраць самы лепшы, самы шчаслівы. І ў гэтым нялёгкім выбары мы, дарослыя, павінны быць побач з імі, разам з імі.**

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

# "ЖАДАЮ СТАЦЬ МАЦІ"

***Для мяне мацярынства не проста працэс нараджэння дзіцяці. Абмежавацца гэтым — значыць спыніць уласнае развіццё на ўзроўні інфузорыі. Вырасціць сапраўднага, годнага чалавека — вось вяршыня мацярынскіх жаданняў.***

Не сакрэт, што менавіта дзеці з'яўляюцца тварам маці, яе гонарам альбо сорамам. За кожнай гістарычнай асобай нязменна стаіць маці, якая таксама з поўным правам можа лічыць сябе творцай гісторыі. Ёй дастаткова сказаць: "Мой сын..." альбо "Мая дачка..." — і далей зусім неабавязкова спыняць на скаку каня і ісці ў палаючую хату. Бо без гэтага верыш, што жанчына, якая здолела выхаваць сапраўднага чалавека, і сама асоба нешараговая. А колькі твораў мастацтва прысвячаюцца маці! Карціны, вершы, рамансы, цэлыя паэмы і раманы... Нездарма французы гавораць: "Шукайце жанчыну". Хто ж бы з вас не захацеў стаць той жанчынай і маці, якой будуць прысвячаць вершы, пісаць карціны, складаць песні?

У пошуках сучаснага ідэала маці прыглядаюся да дзяцей. Вось яны, мурзатыя і неахайныя. Звыклымі і выпрацаванымі інтанацыямі яны просяць грошай "на хлеб". Прапаноўваю пайсці ў магазін і купіць любы бохан, аднак яны адмаўляюцца. Хлапчук гадоў дзесяці рашуча гаворыць: "Не". Яго малодшая сястрычка Ірынка вагаецца. Шасцігадовая дзяўчынка расказвае, што ім патрэбна спяшацца дадому, бо мама чакае, калі яны прынясуць грошы на бутэльку віна. А сёння на вуліцы халодна, і ніхто не падае і грошай. "Значыць, — цяжка ўздыхнула Ірынка, — сёння мамка зноў будзе біць"? У расповедзе дзяўчынкі было столькі недзіцячых перажыванняў і клопатаў, што я, прызнаюся, не стрымалася і дала ім грошай на тую бутэльку. Яны, узрадаваныя, пабеглі прэч. А я ў той жа момант засумнявалася. Не, мне не шкада было тых тысяч, я падумала пра іншае. Чаго я дасягнула, даўшы гэтым дзецям грошы? Зберагла іх ад пабояў? Наўрад ці: не сёння, дык заўтра абавязкова надарыцца выпадак, і іхняя "мамка" не праміне іх пабіць. Тым больш, што гэтая мая падачка чарговы раз упэўніла яе ў правільнасці "выхавання".

"Забіраць патрэбна дзяцей у такіх п'яніц, лепш няхай жывуць у дзіцячым доме, чым з такой маці", — сказала мая сяброўка, і я з ёю ў першую хвіліну пагадзілася.

Аднак, ці лепш жывуць дзеці ў дзіцячым доме — невядома. Канешне, там яны памытыя, апранутыя, накормленыя. Толькі ці гэта — паказчык нармальнага развіцця? У іх ёсць усё самае неабходнае, аднак няма маці, і ні адна выхавацелька не здолее замяніць яе. Многія выхаванцы праз усё жыццё праносяць гэты комплекс "безбацькоўшчыны". І сярод маіх знаёмых ёсць тыя, хто выхоўваўся ў інтэрнаце. Адзін з іх, Дзіма, ніколі не распавядаў пра сваіх бацькоў, спасылаючыся на тое, што яны далёка. Толькі калі ён ажаніўся і ў яго нарадзілася дачка, Дзіма расказаў мне, што самога яго маці пакінула ў роддоме.

Зрэшты, ці мала няшчасных дзяцей у сем'ях звычайных і знешне шчаслівых? Клапатлівыя бацькі не даюць дзіцяці вольна ўздыхнуць, бо лічаць, што толькі яны ведаюць, як патрэбна жыць. Менавіта тут, у нетрах "звычайных шчаслівых" сем'яў і нараджаецца так званы канфлікт бацькоў і дзяцей. Гэта — вынік таго, што ні адзін з бакоў не хоча прызнаваць у сваім "праціўніку" асобу. А ў выніку — агульная "непаўнацэннасць" і дзяцей, і іх бацькоў.

Маці — гэта не проста жанчына. І ад таго, якім вырасце яе дзіця, залежыць, па вялікім рахунку, лёс усяго чалавецтва. Каб стаць сапраўднай маці, патрэбна ўсвядоміць, што, акрамя ўласнага жыцця, цяпер давядзецца адказваць за лёс іншай асобы.

Думаеце, сучасныя жанчыны не ўсведамляюць гэтага? Я так не думаю. Бо як яшчэ вытлумачыць тое, што сёння не так проста адважваюцца нарадзіць дзіця. Малыя заробкі, сацыяльная нестабільнасць, уласная неўладкаванасць — усё гэта палохае жанчыну. Як выхаваць дзіця, накарміць яго, апрануць, вывучыць і забяспечыць яму нармальную будучыню? Што сказаць дзіцяці, калі яно папросіць цукерку, а ў маміным кашальку ледзь-ледзь назбіраецца грошай на булку хлеба? Таму і баяцца сучасныя жанчыны кіравацца прынцыпам "пладзіцеся і размнажайцеся".

Добра, калі на свет не з'яўляюцца заведама абяздоленыя дзеці. Іншая справа, якім шляхам усё гэта дасягаецца. Бо не сакрэт, што сёння ў 15—20-гадовых кантрацэпцыя адна: зацяжарыла — зрабіла аборт, зноў зацяжарыла — зноў паўтарыла "працэдуру". Я не хачу зараз разважаць аб маральнасці забойства яшчэ не народжанага дзіцяці. Гэта — уласная справа кожнага, якая залежыць ад узроўню ўнутранай маралі і духоўнасці. Толькі, калі аднойчы перапыніць дзіцячае жыццё, другі раз дзіця можа проста і не зарадзіцца. На сённяшні дзень у Беларусі кожная пятая сямейная пара бясплодная. І невядома, колькі з іх маглі ў свой час мець дзяцей, але па "важкіх прычынах" адмовіліся. Не трэба спісваць усё на Чарнобыль і сацыяльную нестабільнасць. Менавіта аборты і сексуальная неадукаванасць стаяць на першым месцы сярод прычын жаночай бясплоднасці.

Яшчэ большай павагі заслугоўваюць жанчыны, якія на такім жудасным фоне наважваюцца мець дзяцей. Гэта сапраўдны гераізм — пайсці насуперак умоўнасцям і аддаць усе свае сілы дзіцяці. Любая дачка ці сын, безумоўна, ацэняць гэта і будуць удзячныя да канца жыцця. Як бы банальна ні выглядалі фразы пра цёплыя і пяшчотныя матчыны рукі, пра калыханку, якую яна спявала ў дзяцінстве, сутнасць іх ніколі не стане банальнай.

Дружная сям'я — гэта, у першую чаргу, заслуга маці. Менавіта яна сваёй энергіяй, любоўю і пяшчотай аб'ядноўвае вакол сябе дзяцей. А тыя, у сваю чаргу, будуць браць з яе прыклад і таму ж навучаць уласных дзяцей. Ці ж можна адмовіцца ад спакусы стварыць гармонію і лад у асобна ўзятай сям'і?

Нягледзячы ні на што, я ўсё-такі жадаю стаць маці! Жадаю, каб мае дзеці выраслі добрымі людзьмі, каб яны знайшлі сваё месца пад сонцам. А яшчэ я жадаю, каб дзеці прысвячалі мне свае перамогі, каб сын назваў маім імем зорку, а дачка адкрыла "маміну" старонку ў Internet. Каб я магла ганарыцца сваімі дзецьмі, а яны без сораму гаварылі: "Гэта — наша маці".

**Таццяна КОМАНАВА**

# ГЭТЫ БОЛЬ БАЛІЦЬ УСІМ

***10 кастрычніка ў Мінску адкрываецца крызісны рэабілітацыйны цэнтр для людзей, якія падвяргаліся гвалтаванню...***

Доўга вагаўся, перш чым сесці пісаць гэты артыкул, зноў і зноў пераглядваў запісы і накіды ў блакнотах. А ўсё таму, што тэма надта ўжо далікатная: гвалтаванне малалетніх дзяўчынак, а тым больш — родных дачок.

...У двары аднаго з дамоў гвалтаўнік выбраў ахвяру, пайшоў за ёю, у кабіне ліфта прыгразіў нажом і прымусіў ехаць на апошні паверх "высоткі". Пасля зацягнуў на лесвіцу чорнага хода, дзе і зрабіў сваю агідную справу. На наступны дзень высачыў чарговую ахвяру, па звыклай схеме зайшоў за ёю ў кабіну ліфта — і ўсё паўтарылася. Гэтак жа, як і ў трэці раз. Застаецца толькі дадаць, што, па заключэнню следства, гвалціў "... у натуральнай і ненармальнай формах". А дзяўчынкам тым было ад 11 да 13 гадоў.

Чытачам, напэўна, адразу ж уявіўся бамбіза з яўнымі прыкметамі дэбіла. Дык не ж! Знешне гэты злачынец нічым асаблівым не адрозніваўся ад іншых юнакоў горада. Нават болей: ён быў невысокі і хударлявы, гадоў меў крыху болей за дваццаць. Што ж здарылася з гэтым маладым чалавекам, што падштурхнула яго на такія жудасныя ўчынкі ў адносінах да маленькіх дзяўчынак? Можа, нейкая душэўная хвароба? Але ж судова-псіхіятрычная экспертыза засведчыла, у прыватнасці: "... у перыяд здзяйснення злачынстваў на душэўную хваробу ці часовае расстройства душэўнай дзейнасці не пакутаваў і не пакутуе, мог адказваць за свае ўчынкі і кіраваць імі".

Значыцца, прычына ў іншым. Не ў першую чаргу, на маю думку, у тых кінастужках і відэафільмах, якія літаральна запаланілі апошнім часам пракат. На экранах непераможны супермен толькі тым і займаецца, што размахвае налева-направа агромністымі кулакамі, сцвярджаючы сябе як звышасобу, звышчалавека, а па ходу дзеяння ўступае ў інтымныя зносіны з усімі прадстаўніцамі слабага полу, якія толькі сустракаюцца на ягоным шляху, не зважаючы на тое, хочуць яны таго ці не хочуць. Раздражнёны такімі бязмежна адкрытымі сексуальнымі сцэнамі розум падлетка, ды і маладога чалавека, проста не ў стане супраціўляцца пастаяннаму націску неўтаймоўнай пажадлівасці.

Вернемся да нашага "героя". Суд, улічыўшы ўсе абставіны, прыгаварыў яго да вышэйшай меры пакарання. І гэта правільна. Няма чаго хадзіць па зямлі вылюдку ў чалавечым абліччы.

А вось выпадак іншага кшталту. "Мама! Я ўцякаю. Тата згвалціў мяне летам ужо як год. Ён мне пагражаў. Я жыла ў страху і не магла прызнацца. Калі ты ад'язджала, ён усё гэта зрабіў. Я клікала цябе. Пасля гэтага я не магла сказаць табе праўду. Мне было сорамна і страшна, што ён мяне заб'е. Ліза". Калі гэта здарылася, дзяўчынцы было дзесяць гадоў. Пасля яшчэ амаль два гады так званы "бацька" мучыў яе — біў, звязваў рукі, затыкаў рот анучай, каб не крычала. Суд вызначыў вылюдку адпаведную меру пакарання — дзесяць гадоў утрымання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. А хто верне дзяўчынцы веру ў блізкіх людзей, ва ўсё грамадства?

Тое, пра што я расказаў, — гэта ўжо мяжа, пасля якой пэўны чалавек у сілу свайго цынізму і сваёй жорсткасці перастае быць чалавекам. Неяк я пісаў у газеце пра маладых жанчын, якія забівалі сваіх маленькіх дзетак. Дык што ж атрымліваецца? Маці, якім Богам наканавана быць прадаўжальніцамі жыцця, роду чалавечага, — забіваюць гэта жыццё ў першыя дні і месяцы ягонага існавання. Бацькі гвалтуюць сваіх малалетніх дачок.

І таму лічу, што меры пакарання для такіх мярзотнікаў павінны быць самыя што ні на ёсць строгія. Няма чаго валаводзіцца з імі. Забітыя і згвалтаваныя дзеці нам ніколі гэтага не даруюць...

**Валерый ШЫХАНЦОЎ**



# УЗЛЁТЫ І ТУРБОТЫ БЕЛАРУСКАГА ЦЫРКА

***У** наступным годзе ў жыцці Беларускага дзяржаўнага цырка адбудуцца дзве знамянальныя падзеі. Па-першае, ён адзначыць свой 40-гадовы юбілей, а па-другое, на арэне цырка ўпершыню за ўсю гісторыю яго існавання будзе паказана паўнацэнная беларуская праграма. Пакуль жа поўным ходам ідзе падрыхтоўка да адкрыцця новага сезона. Распачне яго сусветна вядомае лёдавае шоу з белымі мядзведзямі. Трэба сказаць, падобных відовішчаў на Беларусі яшчэ не бачылі.*

Увогуле, нельга не заўважыць, што літаральна за апошнія год-другі беларускі цырк імкліва ўзняўся на якасна новы ўзровень, шырока заявіўшы аб сабе на міжнароднай арэне. Праўда, гэта толькі адзін бок медаля. Закулісныя рэаліі дадзенай культурнай установы далёка не такія аптымістычныя...

За гадзіну да нашай размовы дырэктар цырка і мастацкі кіраўнік Таццяна Бандарчук сустракалася з мэрам Мінска. Адразу падзялілася радаснай весткай: У.Ярмошын паабяцаў дапамагчы з рэкламай новай праграмы. Ужо адной праблемай менш. Зрэшты, толькі сама назва знакамітага атракцыёна — "Лёд, цырк і белыя мядзведзі", а таксама імя яго кіраўніка, заслужанага артыста Расіі Аляксандра Дзянісенкі могуць гарантаваць аншлаг і без шырокай рэкламы.

Праўда, і каштуе ўся праграма нятанна — каля 2 тысяч долараў. У беларускага цырка, вядома, гэтых грошай няма. Не выратоўвае становішча і такі вымушаны крок, як здача памяшкання ў арэнду пад розныя камерцыйныя канцэрты. Аднак, як адзначыла Т.Банадрчук, не можа быць і гаворкі аб тым, каб неяк кампенсаваць затраты, павысіўшы кошт на білеты. Мне было вельмі няпроста дамовіцца аб гастролях гэтага цырка на нашай арэне, — кажа яна, — нямала высілкаў пакладзена на вырашэнне арганізацыйных пытанняў. Таму зараз адступаць няма куды, якія б перашкоды ні ўзніклі. У выпадку грашовых цяжкасцяў міністр культуры А.Сасноўскі абяцаў даціраваць праграму. Так што неяк выкруцімся. Галоўнае — глядач будзе задаволены".

І вось першая непрыемная неспадзеўка: рамонт будынка зацягваецца, таму і прэм'ера перанесена з 3 на 16 кастрычніка. Аднаўленчыя работы вядуцца тут ужо больш за два гады — у прамежках паміж праграмамі, і канца ім не бачна. Таццяна Мікалаеўна са шкадаваннем адзначыла, што на творчасць часу амаль не застаецца: замест сваіх непасрэдных абавязкаў яна вымушана выконваць функцыі прараба, "выбіваць" неабходныя сродкі. Не ў малую капейчыну "ўлятае" адна толькі замена камунікацый. А гэта — кіламетры труб. Зараз усе сілы кінутыя на рамонт агрэмністых прыбіральняў, якія за чатыры дзесяткі гадоў эксплуатацыі ператварыліся ледзь не ў падабенства сутарэнняў Чорнага замка Альшанскага. Наперадзе — рэстаўрацыя фасада і ганка будынка, замена крэслаў у глядзельнай зале, словам, працы процьма. Балазе, вялікую дапамогу аказвае прадпрыемства "Керамін", прадаючы свае тавары з немалымі скідкамі, за што яго генеральнаму дырэктару А.Цюцюнову кіраўніцтва цырка вельмі ўдзячнае.

Таксама ўжо не адзін год востра стаіць праблема пабудовы новай цыркавой гасцініцы. Не сакрэт, што, вандруючы ўсё жыццё, нават у рэдкія хвіліны адпачынку артысты не маюць магчымасці адчуць цяпло сямейнага ачага. Дый па спецыфіцы сваёй прафесіі яны павінны жыць побач з цыркам. Пакуль жа артысты вымушаны туліцца ў іншых сталічных гатэлях і нярэдка дабіраюцца на працу праз увесь горад. А служачыя па доглядзе за жывёламі ўвогуле жывуць (калі тут дарэчы такі дзеяслоў) у грымёрках. Вядома, будаўніцтва гасцініцы можа быць распачата толькі пры непасрэднай фінансавай падтрымцы дзяржавы. Хочацца верыць, што Прэзідэнт пойдзе насустрач. Дарэчы, Аляксандр Лукашэнка ўжо паабяцаў закупіць для цырка сланоў.

Пэўна ж, пасля шматлікіх замежных гастроляў і гучных апладысментаў беларускія артысты цырка вяртаюцца на радзіму з супярэчлівымі пачуццямі. Сусветнае прызнанне, з аднаго боку, і адсутнасць належных умоў працы, месца жыхарства і прыймальнага заробку на родных абшарах — з другога. Таму не дзіва, што нашы артысты з задавальненнем заключаюць кантракты на выступленні з іншымі цыркамі, напрыклад, з Сочынскім. Бо толькі такім чынам яны могуць што-кольвек зарабіць.

Але ў рэшце рэшт, лічыць Т.Бандарчук, галоўнае — тое, што сёлета ў Італіі ўпершыню за 30-гадовую гісторыю штогадовага міжнароднага конкурсу цыркавых артыстаў была заяўлена Беларусь і наш цырк быў высока ацэнены ў адным паважаным тамтэйшым часопісе, што ўлетку беларускія артысты выступалі са сваёй праграмай у Егіпецкім дзяржаўным цырку, што паступілі запрашэнні на ўдзел у конкурсах з Францыі, зноў жа — з Італіі...

Безумоўна, заслуга ў гэтым перш за ўсё Таццяны Бандарчук, якая займае пасаду дырэктара роўна два гады і за такі кароткі тэрмін зрабіла, можна сказаць, неверагоднае. Менавіта з яе ініцыятывы распачалося стварэнне ўласных пастановак і зараз рыхтуецца першая беларуская праграма. Многія яе нумары ўжо "абкаталі", паказалі і ў нашай краіне, і за мяжой. Так што наступны год будзе для беларускага цырка не толькі юбілейным, але і сапраўды этапным.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# УРБАНІСТЫЧНЫЯ КВЕТКІ, альбо ПОШУКІ СВЯТЛА Ў КАНЦЫ ТУНЕЛЮ

***Накіроўваючыся куды-кольвечы (напрыклад, на канцэрт ці на адкрыццё выставы), людзі зазвычай прадчуваюць альбо нават напэўна ведаюць, што яны там могуць пабачыць. Але не ў гэтым выпадку. Сустрэтая ў адной з газет абвестка, у якой гурт "Солнце-цветы" запрашаў усіх ахвочых далучыцца да пошукаў святла, не праліла гэтага самага святла на змест будучай імпрэзы. І тое, што адбылося непадалёк ад вуліцы Адоеўскага 27 верасня, сталася для ўсіх, апроч непасрэдных удзельнікаў, поўнай нечаканасцю.***

Што да вулічных перфомансаў і разнастайных акцый, дык імі наўрад ці здзівіш жыхара любой еўрапейскай краіны. У буйных гарадах свету нават ёсць цікавыя месцы (напрыклад, лонданская Пікадзілі), дзе ўсе жадаючыя могуць праявіць свае здольнасці. Дый і на Беларусі нешта падобнае, хаця і ў трохі іншай форме некалі ўжо існавала — узгадайма прынамсі небезвядомыя кірмашовыя прадстаўленні. Шмат іх паслядоўнікаў аказалася ў нашых суседзяў. І сапраўды, навошта абмяжоўваць сябе невялікімі прасторамі галерэй ці канцэртных залаў?

Колькі гадоў таму гэта зразумелі і ўдзельнікі рок-гурта (ці мастацкага аб'яднання? ці групы аднадумцаў?) "Солнце-цветы" — утварэння досыць дзіўнага для беларускай артпалітры.

У пачатку 90-ых зусім маладыя хлапцы з гурта "Цветы" здзіўлялі наведнікаў рок-канцэртаў сваім артадаксальным дзікаватым выглядам. Потым, відаць, з прычыны таго, што Стас Намін рэанімаваў аднайменны эстрадны ансамбль, назва гурта змянілася спярша на "Огненные цветы", а потым і на "Солнце-цветы". Неаднаразова змяняўся і склад гурта, у якім нязменным заставаўся толькі ягоны лідэр, вядомы ў мінскіх калямастацкіх тусоўках як Жан. Але не гэтыя "кветкавыя пературбацыі" ўяўляюць найбольшую адметнасць. Справа ў тым, што апроч назвы і складу неаднаразова змянялася і стылістыка гурта: ад агрэсіўнага панка да меладычнага пост-панка, потым рэгі... Тое, што паказаў гэты гурт цяпер, безумоўна, можна ахарактарызаваць нейкім ёмкім музычным тэрмінам, але, напэўна, у дадзеным выпадку лепей гэтага не рабіць. Навошта?

Дзеля таго, каб паўдзельнічаць у перфомансе ў якасці гледача, трэба было проста з'явіцца ў патрэбным месцы ў патрэбны час, прыхапіўшы з сабой ліхтарык альбо свечку (для пошукаў святла?). Тых, хто дабраўся гэтым нядзельным днём да канечнай станцыі Адоеўскага, сустрэў досыць адметнага выгляду дзядзька ў белым капітанскім мундзіры — своеасаблівы тамада і "начальнік экспедыцыі". І пачаліся пошукі. Шукалі доўга — гадзін каля дзвюх, шукалі пры дапамозе мапы і компаса, блукалі, апынаючыся то ў нейкім вычайным мінскім двары, то на каларытным сметніку. Увесь гэты працэс суправаджаўся своеасаблівымі каментарамі "начальніка" — банальнымі, але і вечнымі словамі пра любоў да Бога, да бліжняга і проста пра любоў. Раз-пораз на гарызонце з'яўляліся нейкія дзіўныя людзі (істоты?), абцягнутыя цэлафанам, якія ўсё ж пакідалі своеасаблівыя арыенціры, дзякуючы якім можна было знайсці іх логава.

Урэшце, апынуліся ля ўваходу ў тунель, перагароджаным засцерагальным аўтамабільным знакам. Адтуль неўзабаве пачуліся ўдары па іржавым жалезе і блясе, якія толькі некаторыя з прысутных здолелі назваць музыкай. Адметна, што гэтыя індустрыяльныя бясчынствы суправаджаліся дзіўнымі спевамі, якія даносіліся аднекуль з глыбіні тунелю. Усе гэтыя гукі літаральна ўядаліся ў свядомасць дзякуючы своеасаблівай акустыцы бетоннай "трубы". Нечакана для ўсіх на ўзгорку, што быў ля ўвахода ў тунель, з'явілася нейкая дзіўная постаць, і ледзьве не на галовы публікі пакацілася цяжкае металічнае кола.

Але праз нейкі час паміж гледачамі і тымі дзіўнымі істотамі, якія насялялі тунель, усталявалася пэўнае ўзаемапаразуменне, у выніку чаго аўтамабільны знак быў сарваны, і ўсе жадаючыя здолелі патрапіць у тую змрочную, але і прыцягальную прастору, якую ён ахоўваў. Тыя, хто адважыўся прайсці па доўгім і цёмным тунелі, здолелі зразумець, навошта перфоманы прасілі публіку прыхапіць з сабой ліхтарыкі. На бетонных мурах была размешчаная невялікая выстава. Аглядаць яе даводзілася пад акампанемент усё тых жа гукаў.

Нягледзячы на тое, што перфоманс цягнуўся даволі доўгі для гэтага віду мастацтва час — каля чатырох гадзінаў, нягледзячы на пэўныя арганізацыйныя "няўвязкі", самай істотнай з якіх можна лічыць адсутнасць выразнага заканчэння, імпрэза пакінула надзіва цэласныя і моцныя ўражанні. А менавіта іх найчасцей бракуе у наведнікаў разнастайных мастацкіх акцый у сталічных галерэях.

**Гальляш СЬВІРЫН**

# ЗАЛОЖНІКІ "КУРОДЫМНЫХ ДЖУНГЛЯЎ"

***Аднойчы пачуў такую гісторыю. Кампанія маладых людзей пакіравала на выходныя за горад адпачыць. Заехалі ў лясок, выйшлі з машыны і пачалі з асалодай удыхаць чыстае паветра на поўныя грудзі. Раптам адзін з сябрукоў пахіснуўся без дай-прычыны і грымнуўся вобзем. Самы здагадлівы хуценька падцягнуў непрытомнага да выхлапной трубы аўтамабіля і запусціў рухавік. Хвіліна "чадавай тэрапіі" і — небарака акрыяў.***



"Ці можа такое быць?" — запытаў я неяк у знаёмага медыка, узгадаўшы пра гэты анекдатычны выпадак. Медык сказаў, што галавакружэнне і нават страта прытомнасці на свежым паветры — даволі звычайная з'ява сярод зацятых "патрыётаў" буйнога горада. Свежае павета літаральна ап'яняе. І зусім неабавязкова цягнуць такога чалавека да выхлапной трубы. Праз колькі хвілін ён ачуняе і сам... Зрэшты, з усмешкай дадаў мой знаёмы, усе мы ў нейкай ступені, наркаманы куродымных "каменных джунгляў".

Напэўна, рэдка хто з гараджан задумваўся, што кожны дзень яны атрымліваюць пэўную дозу таксічнага выхлапнога "варыва". "Асартымент" апошняга даволі багаты: вуглярод, вуглевадарод, дэаксід азоту, сажа, сярністы ґаз, свінец... Сёння аўтатранспарт — асноўная крыніца забруджвання не толькі атмасферы, але і дыхальнай сістэмы чалавека (у адносінах да homo sapiens "пацягацца" з ёй можа хіба што тытунёвы дым). Прамысловыя выкіды не настолькі шкодныя, бо, папершае, менш таксічныя, а, падругое, яны трапляюць адразу ў верхнія слаі атмасферы. А выхлапныя газы бязлітасна "выстрэльваюць" проста ў твар.

За апошнія пару-тройку гадоў беларуская сталіца ператварылася ў сапраўдны аўтамабільны мегаполіс. Горад літаральна патанае ў клубах выхлапнога чаду. Як паведамілі мне ў гарадскім камітэце аховы прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, у мінулым годзе аўтамабілі выкінулі ў атмасферу 70 тысяч тон шкодных рэчываў (прадпрыемствы — 43,97 тысячы тон). Тут неабходна ўдакладненне. Выкіды прыватнага транспарту не ўлічваліся. А з 6440 сталічных прадпрыемстваў, кожнае з якіх налічвае больш за дзесяць транспартных адзінак (дадзеныя ДАІ), было праверана толькі 150 найбольш буйных аўтагаспадарак. На колькі ж трэба памножыць вышэй названыя 70 тысяч тон, каб атрымаць лічбу, якая б адпавядала ісціне? Таму не дзіва, што замеры на пастах гідраметэаслужбы паказваюць, што, нягледзячы на падзенне ўзроўню вытворчасці, выкіды ў атмасферу шкодных рэчываў не паменшыліся, а павялічыліся. За кошт аўтамабіляў.

Як паказала аперацыя "чыстае паветра", што праводзілася ў ліпені г.г. спецыялістамі аддзела дзяржкантролю за аховай і выкарыстоўваннем атмасфернага паветра сумесна з ДАІ, многім аўтаўладальнікам гэтыя нарматывы "да фені". Так, падчас аперацыі на дарогах і пры тэхаглядзе было праверана 39932 прыватныя і дзяржаўныя аўтамабілі. З іх выяўлена з перавышэннем таксічнасці дымнасці 4763. Па артыкуле 82 Кодэкса РБ аб адміністрацыйнай адказнасці на вадзіцеляў складзены 4451 пратаколы. Астатнія аўтапарушальнікі абышліся лёгкім стрэсам і папярэджаннямі. Зрэшты, і "пратакольшчыкі" не дужа спалохаліся. Паводле згаданага артыкула, з іх спагналі штрафы ў памеры ад 0,5 да 3 мінімальных зарплат, а кіраўнікі аўтагаспадарак і іншыя адказныя асобы выклалі ад 1 да 5 "мінімалак". Безумоўна, для "крутых" аўтаўладальнікаў, якія штогод мяняюць свае машыны, як пальчаткі, гэта не грошы.

Дарэчы, як сведчаць супрацоўнікі ДАІ, напрыканцы аперацыі "шкодных" аўтамабіляў траплялася значна меней, чым на яе пачатку. Праверкі аўтамабіляў на таксічнасць праводзяцца даволі часта. Але прыборы, якія вызначаюць таксічнасць аўтамабіля, могуць працаваць толькі пры тэмпературы не менш за пяць градусаў цяпла. Узімку, "залавіць" парушальніка немагчыма. Так што, відаць, наперадзе нас чакаюць кіслотныя снегапады і чадавыя завеі.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

## "АВТОМОБИЛИ, АВТОМОБИЛИ БУКВАЛЬНО ВСЁ ЗАПОЛОНИЛИ..."

Яны запаланілі не толькі нашы вуліцы, але і двары дамоў, ператварыўшы іх у сапраўдныя аўтастаянкі. Напрыклад, насупраць майго пад'езда — невялічкая дзіцячая пляцоўка. Вакол яе ўвесь дзень туды-сюды рухаюцца машыны. Добра яшчэ, што не ездзяць праз яе напрасткі. Таму і дзеці тут рэдка калі з'яўляюцца. Пагушкаюцца хвілін пяць на арэлях, абавязкова пад пільным наглядам дарослых і — ходу. А нядаўна бачыў, як з-за загрувашчвання нешырокіх дваровых вулак прыватнымі аўтамабілямі машына "Хуткай дапамогі" не змагла пад'ехаць да пад'езда. Урачы вымушаны былі метраў 200 ісці пешшу, адшукваць патрэбны пад'езд... Безумоўна, падобнае становішча можна назіраць і ў многіх іншых дварах.

"Паркоўка і стаянка аўтамабіляў у дварах — гэта для нас праблема нумар адзін, — кажа старшы інспектар дарожна-паставой службы па экалогіі РАУС Цэнтральнага раёна старшыня міліцыі Генадзь Ігнатовіч. — Вялікая колькасць "легкавушак" літаральна днюе і начуе ў дварах, самым нахабным чынам парушаючы адпаведныя нормы і правілы. Да прыкладу, калі шырыня дваровага праезду не перавышае трох метраў, спыненне, а тым больш стаянка аўтамабіляў на ім, увогуле забаронена. Ствараецца ўражанне, што нашы "дваровыя" аўтаўладальнікі альбо не ведаюць гэтых нормаў, альбо проста імі пагарджаюць".

Рэйды па дварах — неад'емнае штодзённае "мерапрыемства" міліцыянераў-эколагаў. І, як правіла, кожны раз яны вяртаюцца ў аддзел, несучы цэлае бярэмя знятых з аўтамабіляў нумарных знакаў. Толькі з 20 па 30 верасня гэтага года ў аўтаўладальнікаў (па Цэнтральным раёне) было "канфіскавана" 150 дзяржнумароў, складзена каля 300 адміністрацыйных пратаколаў, якія прадугледжваюць штраф ад 1 да 3 мінімальных зарплат.

"У інтарэсах саміх жа ўладальнікаў карыстацца аўтапляцоўкамі, якія ахоўваюцца — кажа Г.Ігнатовіч. — Не будзе ні крадзяжоў, ні штрафаў. Але што і казаць, звяртацца да здаровага розуму і сумлення такіх людзей, відаць, бессэнсоўна. Таму ў бліжэйшы час будзем выносіць гэтае пытанне на разгляд у гарвыканкаме".

**Алесь ГАЛІШНІКАЎ**

ПАД ЗНАКАМ СЛОВА

**З днём нараджэння!**

# ВЕРШЫ НЕ ЎЗНІКАЮЦЬ З НІЧОГА...

Эдзі Сямёнаўна Агняцвет нарадзілася ў кастрычніку, тым месяцы, які шчодры на сакаўныя дары. І сама паэтэса па-восеньску багатая паэтычным плёнам.

Вершы Эдзі Сямёнаўны я чытаў і вучыў напамяць з захапленнем яшчэ ў свае школьныя гады. А ў студэнцкую пару на сустрэчах з паэтэсай у цэнтральнай кнігарні сталіцы падоўгу стаяў у чарзе, каб набыць яе новы зборнік. То былі ці "Беларуская рабіна", ці "Госць з далёкай зямлі", ці "Падарожнік"... І з вялікай радасцю чытаў вечарамі, пасля лекцый, верш за вершам...



І пазней цікавіўся яе чалавечнай паэзіяй. Здаўна помню вось хаця б гэтыя радкі — па-жаноцку пяшчотныя і па-мужчынску моцныя:

*Калі ўпаду я ў дарозе,*
*Сябры мае,*
*чуткам не верце!*
*Я прыдарожнай бярозай*
*Устану*
*далёка ад смерці!*

Паэтэса не купалася ў дажджы ўзнагарод, як некаторыя шчырыя і няшчырыя творцы. Яна працавала, а можа, больш правільна — жыла паэзіяй. Мне блізкая яе грамадзянская нязменная пазіцыя, светлая любоў да роднай рабіны і бярозкі, да простага чалавека-працаўніка, да Радзімы. А ёсць яшчэ адна любімая тэма ў Эдзі Сямёнаўны — гэта тэма "Паэзія і музыка". Яна праходзіць праз многія зборнікі паэтэсы: "Закаханы", "Беларуская рабіна", "Лірыка" і іншыя. Ледзь не рытмамі "Апасіянаты" паўстае геніяльны Бетховен з аднайменнага верша.

Пяшчотныя і ўсхваляваныя радкі прысвячае паэтэса вялікаму кампазітару і піяністу Шапэну. Знайшла Эдзі Сямёнаўна і багатыя на пачуцці паэтычныя радкі для сваіх сяброў — беларускіх кампазітараў.

А ўвогуле, гляньце на спіс: усе вядучыя нашы кампазітары звярталіся і звяртаюцца да надзвычай музыкальнай паэзіі Эдзі Агняцвет, — Мікалай Аладаў, Рыгор Пукст, Яўген Цікоцкі, Пётр Падкавыраў, Анатоль Багатыроў, Дзмітрый Лукас, Уладзімір Алоўнікаў, Юрый Семяняка, Іван Кузняцоў, Яўген Глебаў, Ігар Лучанок, Уладзімір Мулявін і многія маладыя сённяшнія кампазітары. Хто з радасцю не ўспомніць цудоўны раманс Дзмітрыя Лукаса на словы Эдзі Агняцвет "Фіялкі"? А яго ж вакальны цыкл "Мелодыі" на вершы Лесі Украінкі ў перакладзе беларускай паэтэсы! У свой час у нашым оперным тэатры з поспехам ішла дзіцячая опера Рыгора Пукста "Марынка", створаная паводле лібрэта Эдзі Агняцвет. Асобныя яе фрагменты былі настолькі папулярныя і любімыя ў народзе, што потым часта перадаваліся па радыё па шматлікіх заяўках.

А колькі жаноцкай пяшчоты, глыбокага пачуцця ў класічнай песні Юрыя Семянякі і Эдзі Агняцвет "Я тужыць не стану", якую так непаўторна спявае народная артыстка Беларусі Наталля Гайда! А мулявінская — "Міша Камінскі" з праграмы "Праз усю вайну" ў выкананні "Песняроў"! Дзе толькі ў белым свеце яна не гучала, балюча кранаючы сэрцы шматлікіх слухачоў.

Зварот кампазітараў да вершаў слыннай паэтэсы, вядома ж, не выпадковы. Ён гаворыць пра сапраўдную паэтычнасць твораў, іх надзённасць і цеплыню.

Нездарма ж і дом паэтэсы для многіх кампазітараў жаданы. Там можна пасядзець за фартэпіяна, сыграць новыя творы, памарыць пра будучыню...

Заслугоўвае ўвагі творчае сяброўства Эдзі Сямёнаўны з народным хорам сяла Ананчыцы Салігорскага раёна. Пасля сустрэч з песенніцамі з'явіліся вершы "Спявае сяло", "Ананчыцы", "Ева Міхнавец", "У хвіліны смутку", "Твае прытульныя вячоркі". Жанчыны з хору называюць Эдзі Сямёнаўну сястрыцай, звяртаюцца да яе па самых розных пытаннях. У свой час паэтэса дапамагла ім праз Савет Міністраў набыць аўтобус для дзяцей, якім было далёка хадзіць у школу. Перапіска, сустрэчы ў кватэры паэтэсы, калі спяваюцца народныя песні, сабраныя спявачкамі ў розных мясцінах Беларусі, прыносяць ўзаемную радасць кожнаму. Які чароўны дыялог!

*Цётачкі мілыя,*
*нізкі паклон —*
*За галасоў пераклік-перазвон!*
*За пražытыя чорныя мукі,*
*За спрацаваныя, дужыя рукі,*
*За пераліўныя вяснянкі*
*І за купалінкі-закаханкі.*

Нельга прамінуць і такі бок творчай дзейнасці Эдзі Сямёнаўны, як мастацкія пераклады. Гэта перастворaныя на беларускую мову кнігі французскіх паэтаў: "Маленькі прынц" Экзюперы, "Зямны акіян" Апалінэра, "З табою" Элюара, выбраныя песні Беранжэ, зборнік вершаў для дзяцей "Краіна паэмія". У сваім новым зборніку "І смутак, і боль", у публікацыях, што з'явіліся ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" і ў "Народнай газеце", паэтэса ўзнімае вострыя надзённыя тэмы і глыбока, па-майстэрску раскрывае іх.

Глыбокія, балючыя, з самай душы вершы былі надрукаваны не так даўно ў "ЛіМе". Адзін з іх — "Без цябе...":

*Калі б ты ведаў,*
*як самотна мне без цябе,*
*Як гаротна мне без цябе,*
*Як не стае мне вачэй тваіх глыбокіх,*
*Тваіх імклівых крокаў!*
*Калі б ты ведаў...*

Маё сэрца спачуваннем адгукаецца на гэты боль так, як у сваім лісце спачувала паэтэса мне, калі не стала ў мяне мамы...

Вершы, напісаныя Эдзі Сямёнаўнай Агняцвет... Яны хвалююць, яны будзяць дабрыню і спагаду да Чалавека. Яны патрэбны ўсім нам, як духоўная спажыва.

Дзякуй за вершы і здароўя вам, Эдзі Сямёнаўна!

**Уладзімір КАРЫЗНА**



Так атрымалася, што з сузор'я выдатных, сусветна вядомых выканаўцаў-піяністаў, скрыпачоў, спевакоў, з якімі мне даводзілася часта сустракацца ў філарманічных канцэртах, — самым дарагім і блізкім майму сэрцу стаў артыст не музычнага жанру, непаўторны, непараўнальны чытальнік Дзмітрый Мікалаевіч Жураўлёў, які асвяціў маё жыццё шматгадовай дружбай.

Калісьці, яшчэ юнаком, у магазіне грампласцінак я паслухаў фрагмент чэхаўскага "Дома з мезанінам" у выкананні Жураўлёва. З пэўнай доляй нахабства адзначыў: не чытае, а размаўляе. Тады я яшчэ не здольны быў па вартасці ацаніць выключнае выканальніцкае майстэрства чытальніка. Але выразаў з газеты і захоўваю да гэтага часу яго фотаздымак у ліку іншых лаўрэатаў Сталінскай прэміі. Прадстаўляючы філарманічнай публіцы чытальнікаў, я амаль ніколі не ўваходзіў у залу і не слухаў іх. Мяне больш вабіла музыка. Так было і на першых канцэртах Жураўлёва, хаця мне вельмі падабаліся і ён сам, і ягоная жонка Валянціна Паўлаўна, якая заўсёды суправаджала свайго мужа-артыста. Але аднойчы!.. Я ўвайшоў у залу, калі

**Сімвалічна**

# "...І ЦАР УСІХ ЦАРЭЙ!"

У аўтабіяграфічных лістах Янкі Купалы да Л.Клейнбарта ёсць наступнае прызнанне: "... отдал дань времени и увлёкся, что называется, символистами — Андреевым, Сологубом и др., из польских — Пшибышевским".

Пра ўстойлівую і плённую цікавасць Янкі Купалы да тэорыі і практыкі сімвалізму сведчаць не толькі ягоныя ўласныя творы, але таксама і пераклады. Асабліва з польскай літаратуры.

У перакладчыцкай практыцы пісьменніка звяртае на сябе ўвагу тое, што паэт перакладае найперш А.Міцкевіча, У.Сыракомлю, Ю.Крашэўскага — гэта значыць пісьменнікаў, так ці інакш звязаных з беларускім краем, а са сваіх сучаснікаў — Марыю Канапніцкую, Яна Каспровіча, Ежы Жулаўскага, пераважна прадстаўнікоў "Маладой Польшчы", літаратурна-мастацкага накірунку, ініцыятарам стварэння якога быў адзін з тэарэтыкаў і ідэолагаў еўрапейскага мадэрнізму Станіслаў Пшыбышэўскі.

С.Пшыбышэўскі — легенда польскай літаратуры, адна з самых трагічных і загадкавых постацяў у сусветным мастацтве. Гэты пісьменнік, што пры жыцці лічыўся геніяльным, а неўзабаве пасля смерці (1927 г.) стаўся амаль забытым, нарадзіўся ў 1886 годзе ў Куявах, на тэрыторыі, якая была тады часткай Германіі. У Берліне, дзе Пшыбышэўскі вывучаў напачатку архітэктуру, а потым псіхіятрыю, надрукаваў ён свае першыя творы, напісаныя па-нямецку: "Homo sapiens", "Totenmesse", "Zur psychologie des Individuums". Творы прынеслі яму шумную славу і тытул геніяльнага пісьменніка ў асяроддзі літаратурна-нямецкага руху "Маладая Германія".

Гэта было якраз тады, калі ва ўсёй Еўропе, Скандынавіі, Расіі, у розных паводле свайго палітычнага, культурнага і эканамічнага развіцця краінах амаль аднachасова адбываецца рэвізія ранейшых поглядаў на мастацтва, выпрацоўваецца новы падыход да ўспрыняцця рэчаіснасці. Прадстаўнікоў новага накірунку называюць па-рознаму: дэкадэнтамі, мадэрністамі, але найлепш, паводле меркавання даследчыкаў еўрапейскай літаратуры, гэтую з'яву акрэсліваюць тэрміны "Маладая Германія", "Маладая Скандынавія" і, паводле аналогіі — "Маладая Польшча".

Станіслаў Пшыбышэўскі меў цесныя асабістыя кантакты не толькі з нямецкімі мадэрністамі, але і з лідэрам маладых скандынаваў, вядомым шведскім пісьменнікам Юханам Аўгустам Стрындбергам. І вярнуўшыся ў 1898 годзе ў Кракаў, акурат Пшыбышэўскі паспрыяў таму, каб прадстаўнікі разнастайных мастацкіх тэндэнцый, не звязаных дагэтуль паміж сабой, аб'ядналіся ў адно цэлае, у адзіную плынь, якая традыцыйна называецца літаратурай "Маладой Польшчы".

Сутнасць новага мастацтва ў нейкай ступені вытлумачвае тэрмін "naga dusza" — голая душа, які часта згадваецца ў тэкстах С.Пшыбышэўскага. Зрэшты, некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што само гэтае паняцце "naga dusza" Пшыбышэўскі пазычыў з парыжскіх лекцый Адама Міцкевіча.

У сваіх развaжаннях пра "голую душу" Пшыбышэўскі сцвярджае наступнае: усе думкі і пажаданні чалавека абумоўлены інстынктам, сляпымі сіламі, бо чалавек — такое ж звяно ланцуга эвалюцыі, як і ўсе жывёлы. Таму, каб выявіць сапраўднага чалавека, неабходна пранікнуць у яго падсвядомасць, менавіта ў тыя пласты, што звязваюць яго з далёкімі продкамі. "Голая душа" якраз і ёсць той субстрат, што не залежыць ад знешніх падзей і абставін, а валодае толькі фізіялагічнай памяццю. Таму "голая душа" выяўляецца не праз свядомасць, якая з'яўляецца другаснай, залежнай ад часу і асяроддзя, а падчас так званых анамальных псіхічных станаў — істэрыі, галюцынацый, вар'яцтва.

Сёння відаць, што многае ў развагах Пшыбышэўскага нагадвае высновы славутага псіхааналітыка З.Фрэйда. Але Пшыбышэўскі прыйшоў да сваіх поглядаў самастойна, бо на той час фрэйдаўская тэорыя была вядома толькі вузкаму колу спецыялістаў.

Усе шматлікія мастацкія творы С.Пшыбышэўскага — аповесці, псіхалагічныя драмы з'яўляліся ілюстрацыяй ягоных тэарэтычных поглядаў. І якраз з гэтай нагоды яны вельмі шмат гублялі з мастацкага пункта гледжання. Тое, што на пачатку XX стагоддзя, дзякуючы агульнай грамадскай і духоўнай атмасферы, а таксама прыцягальнасці асобы Пшыбышэўскага, абуджала высокае захапленне, сёння выглядае амаль парадыйным.

Між тым вядомы польскі літаратурны і тэатральны крытык Адам Гжымала-Сядлецкі пісаў у 1913 годзе наступнае: "Homo sapiens" абегла не толькі Польшчу, але Германію і Расію, і ў апошняй мела асаблівы ўплыў на літаратуру. Сёння можна напісаць цэлую працу аб уплыве яго (Пшыбышэўскага. — **Аўт.**) творчасці на рускую літаратуру. Ад гэтага ўплыву не свабодны і Андрэеў".

У гэтым выказванні няма перабольшання. Драмы С.Пшыбышэўскага "Снег", "Залатое руно", "Адвечная казка" і іншыя ставяцца ў шматлікіх гарадах тагачаснай Расіі — ад Пецярбурга да Адэсы, Херсона, Тыфліса. Славуты У.Меерхольд на працягу амаль трох гадоў, нягледзячы на амаль поўны правал спектакля, не здымае з тэатральных афіш "Снег" С.Пшыбышэўскага.

Сам жа аўтар гэтай п'есы неаднаразова робіць шматлікія турнэ па расійскіх гарадах, дзе выступае з лекцыямі, у якіх прапагандуе новае мастацтва. Ужо самі назвы ягоных выступленняў, прачытаных у Пецярбургу, Адэсе і іншых гарадах: "Аб рэформе тэатра", "Новая драма і сімвалізм", — выяўляюць іх эстэтычную скіраванасць.

Такім чынам, купалаўскае захапленне сімвалізмам не было выпадковым. Яно ішло праз непасрэдны кантакт з польскай літаратурай і з мастацкай творчасцю і тэарэтычнымі пастулатамі Станіслава Пшыбышэўскага, а таксама праз уплывы рускай літаратуры, якая апасродкавана жывілася ідэйнымі пошукамі агульнаеўрапейскага мадэрнізму і знаходзілася пад уплывам тэорыі ўсё таго ж Пшыбышэўскага.

Пра глыбокае і шчырае захапленне творамі гэтага пісьменніка сведчыць купалаўскі верш "Снег", надрукаваны ў снежні 1909 года ў "Нашай ніве". Ён меў падзагаловак "Па Пшыбышэўскім", які быў зняты падчас публікацыі верша ў савецкіх выданнях. Нагодай для напісання гэтага твора, як успамінаў В.Ластоўскі, стаў прагляд спектакля ў віленскім польскім тэатры паводле драмы С.Пшыбышэўскага "Снег".

"Я добра памятаю той вечар, калі быў напісаны гэты верш, — піша В.Ластоўскі. — Было гэта позняй восенню. Выпаў першы глыбокі белы снег, мяккі, пушысты і цёплы. Мы, я і Палуян, сядзелі ў мяне дома. Было ўжо па 12-й гадзіне вечара. С.Палуян і Я.Купала, як мы тады казалі, "выбіраліся ўжо ў вырай" — меліся выязджаць з Вільні. Выязджаць, шукаючы залатога руна асветы, каб вярнуцца з часам волатамі ў дзядзіне творчасці. С.Палу-

Аўтограф

# Я ВАС ЛЮБІЎ, Я ВАС ЛЮБЛЮ!

Дзмітрый Мікалаевіч чытаў апавяданне Чэхава "На святках". І так закрануў маё сэрца гэты чарадзей мастацкага слова, што зрабіў мяне сваім "палонным" на ўсё жыццё.

З тае пары пачалася шчаслівая эпапея яднання нашых душ. Я мог бясконца слухаць яго аповеды пра тое, як спявалі Няжданава і Абухава, якія былі і маімі кумірамі. Мы захлыналіся ад захаплення, прыгадваючы магію танца Галіны Уланавай і Марыны Сямёнавай. Нас паланіла магутнае мастацтва Рыхтэра, які, дарэчы, сябраваў з сям'ёй Жураўлёвых. Дзмітрый Мікалаевіч з асалодай успамінаў свае сустрэчы з выдатнымі артыстамі, а ў маёй асобе ён знайшоў удзячнага слухача.

Неяк ён павёў мяне ў музей імя Шчусева на выставу мазаікі з Равены. Перад намі паўстаў сапраўдны цуд чалавечага генія: здольнасць глыбока ўвасобіць і перадаць з дапамогай маленькіх каляровых квадрацікаў думкі і пачуцці людзей. А я любаваўся яшчэ і маім старэйшым сябрам, які свяціўся ад захаплення, як сонца, што глядзела ў вокны музея.

Бываючы часта ў Маскве нязменна наведваў сям'ю Жураўлёвых. Гэта традыцыя стала паломніцтвам у Мекку маёй сутнасці, дзе гаспадары вялі сябе проста і ветліва, не рабілі нічога наўмысна, але ты адчуваў цеплыню, ласку і ўзаемапаразуменне. Інтэлігентнасць і добрасардэчнасць — вось дух гэтай сям'і. Валянціна Паўлаўна павінна была стаць спявачкай. Вучылася ў Маскоўскай кансерваторыі. Але абрала высакародную місію жонкі сябра і нязменнага спадарожніка артыста Жураўлёва. Дочкі: Марыя — рэдактар і аўтар музычных праграм першай расійскай радыёстанцыі, Наталля — артыстка Тэатра Ленкома і Тэатра-студыі Алега Табакова, выдатная чытальніца.

Калі я ў 1980 годзе трапіў у бальніцу з інфарктам, якія пісьмы атрымліваў ад гэтых людзей! Сам некалі перажыўшы цяжкую траўму ў аўтакатаст-



рофе, Дзмітрый Мікалаевіч дапамагаў мне адольваць бяду ўдзелам і падтрымкай. І пры першай магчымасці, я, нібы герой оперы Маснэ "Вертэр", зноў наведваў маленькую кватэру, дзе, як ён спяваў, "усё, як раней, стаіць на знаёмым мне месцы" — кнігі, альбомы, пласцінкі, карціны. Падраненае маё сэрца зноў забілася ў былым рытме. І сталі працягвацца нашы ўзаемарадасныя адносіны.

Як зараз, чую жураўлёўскае захоплена-ігрывае "брава" на спектаклі "Аіда" Міланскага тэатра "Ла Скала". Я быў шчаслівы, што здолеў прынесці майму бясцэннаму сябру: ён вельмі любіў музыку і ўсё цудоўнае. Не жывучы ў Маскве, мне ўдавалася рознымі спосабамі даставаць білеты на знамянальныя падзеі ў мастацтве. Адчуваючы маё хваляванне з-за таго, што складана трапіць на спектаклі шведскай оперы, якая гастралявала ў Маскве, Дзмітрый Мікалаевіч супакойваў мяне: "Володенька, ну не волнуйтесь уж так, пожалуйста. Подумаешь, — жили мы до сих пор без шведской оперы, проживем и далее". Але мы ўсё ж паслухалі вагнераўскую "Валькірыю". Я вадзіў майго шаноўнага графа дэ Жура — так жартам называлі яго блізкія людзі, у Малы тэатр на спектакль "Лес". Дзмітрый Мікалаевіч пайшоў са мною за кулісы ў артыстычны пакой і вельмі пахваліў Рамана Філіпава за выкананне ролі Нешчаслівцава (многія ў Беларусі памятаюць гэтага выдатнага артыста па працы ў Купалаўскім тэатры). Неяк марознай зімой мы з сямействам Жураўлёвых праціскваліся праз натоўп людзей у Пушкінскі музей на канцэрт "Снежаньскіх вечароў". Іграў Рыхтэр. Ён і запрасіў нас. На сценах — карціны, у зале — мноства славутых дзеячаў. Гучала музыка ў выкананні вялікага піяніста. Узвышаная атмасфера панавала ў той незабыўны вечар.

Я ездзіў да дарагіх мне Валянціны Паўлаўны і Дзмітрыя Мікалаевіча ў дамы адпачынку "Софрына" і "Братцава", дзе яны бывалі ўлетку. А потым Жураўлёў прыязджаў у Мінск, і зноў чараваў мяне і слухачоў дзівосным уменнем рабіць бачнымі персанажаў літаратурных герояў, якіх ён чытаў. Здавалася, што за трагедыя спасцігла Яфімію з апавядання Чэхава "На святках"? Ну паехала з вёскі — дык жа замуж выйшла за самога швейцара прыватнай гразеводалячэбніцы. І жыве ў Пецярбургу, мае траіх дзетак. Але, калі яна са слязьмі ўспаміна сваю вёску — "как там по полям зайчики бегают", — Дзмітрый Мікалаевіч так раскрываў душу гэтай жанчыны, што я кожны раз спачуваў ёй гаротнай, чыё жыццё вызначалася ўяўным дабрабытам. Жураўлёўская Кармэн зацьміла ў маім уяўленні ўсіх, хто выконваў гэтую ролю ў розных жанрах. А апавяданне Чэхава "Выпадак з практыкі"! З якім майстэрствам перадаваў чытальнік журботнасць і сум маладой дзяўчыны, якая, здавалася, існавала ў заможных абставінах. Сцэну смерці Пеці Растова з "Вайны і міру" нельга было слухаць без слёз. Ды і ўсё, што чытаў Жураўлёў, захапляла і запаміналася



назаўсёды. І я быў бязмежна шчаслівы і горды, калі ён, адзіны з усіх чытальнікаў, быў удастоены вышэйшага звання — народны артыст СССР. Больш за чвэрць стагоддзя працягвалася наша поўнае ўзаемаразуменне. У мяне шмат пісьмаў, аўтографаў, дарчых надпісаў ад Дзмітрыя Мікалаевіча. Але я хачу растлумачыць гісторыю тых, якія вы бачыце. Неяк у яго дома я ўбачыў фотаздымак, які мне вельмі спадабаўся, і папрасіў падарыць яго. Граф дэ Жур заўсёды быў у радасным настроі пры нашых сустрэчах. "Что тебе написать?", — спытаў ён. Нам было весела, і я жартам прапанаваў: "Напишите "тудыть твою растудыть". Што ён і зрабіў. Мы потым пасмяяліся, а мне вельмі падабаецца гэтае адлюстраванне любімага чалавека. На другім фота напісана "Как приятно быть в объятиях Тито Руффо". Гэта вялікі італьянскі спявак. Жураўлёвы ведалі, што я таксама спяваю, але ніколі мяне не чулі. І вось неяк пасля канцэрта ў філармоніі я даў ім у класе невялічкі свой канцэрт. Яны сталі ўгаворваць мяне ўсур'ёз заняцца спевамі, запэўніваючы, што яшчэ не позна. Потым, калі былі ў мяне дома і паслухалі некаторыя мае запісы, Дзмітрый Мікалаевіч (даруйце, можа гэта не зусім сціпла) сказаў, што лепшага выканання элегіі Глінкі "Не искушай меня без нужды" ён не чуў.

На гэта я пажартаваў: "Зарытый мною талант прошу считать недействительным. Как говорится, поезд уже ушел"... Так узнік надпіс на нашым фота, дзе выказаны мне яўна перабольшаны камплімент. Дзякуй, дарагі, бясцэнны чалавек. 1 ліпеня 1991 года Дзмітрый Мікалаевіч назаўсёды пакінуў усіх, хто яго любіў.

Святлее ў мяне на душы, калі я ў думках выходжу на духоўную сувязь з маім цудоўным сябрам. Яго душа таксама павінна радавацца, бо ўсе, каго ён захапляў сваім талентам і лашчыў такой непаўторнай жураўлёўскай усмешкай, таксама былі шчаслівымі.

Божа, які бедны мой слоўны запас. Дзмітрый Жураўлёў!.. Я вас любіў!

Я вас люблю! І гэтыя пачуцці ніколі ў ва мне не згаснуць.

**Уладзімір ШЭЛІХІН**

# ЯНКА КУПАЛА І СТАНІСЛАЎ ПШЫБЫШЭЎСКІ

ян і я непакоіліся, што Я.Купала меў некаторую схільнасць да "шклянога бога". У гэты момант увайшоў Я.Купала, румяны, паводле ўсіх адзнак пад знакам Вакха. Пачалося таварыскае казанне. Я.Купала сеў у куце за сталом і маўчаў. На ніякія нашы закіды не адказваў, толькі нешта крэмзаў на пакомканай паперцы алоўкам. Калі мы вычарпалі ўсе свае аргументы і прымоўклі, Я.Купала сказаў: "А цяпер паслухайце, хлопцы". І прачытаў свой верш "Снег". Цяпер, уражаныя хараством верша, мы змоўклі — усе нашы аргументы былі разбіты. Аказалася, што Я.Купала быў таго вечара ў тэатры, у якім ігралі Пшыбышэўскага "Снег". Мастацтва і прырода ўтварылі настрой, рэшту дапоўніў творчы геній аўтара.

Згадаем колькі радкоў з купалаўскага "Снега": "Залягла, як пасцель, лебядзіная бель на загон, на курган. І кажан, і груган анямеў не на смех: гэта снег, толькі снег..."

Напісаная крыху раней за згаданы верш драматычная паэма "Адвечная песня" Янкі Купалы таксама звязваецца з імем Пшыбышэўскага: некаторыя даследчыкі заўважаюць тут палеміку з драмай польскага пісьменніка "Адвечная казка". Зрэшты, іншыя купалазнаўцы лічаць, што купалаўскі твор узнік пад уплывам драмы Л.Андрэева "Жыццё чалавека". Цікава, заўважым, што самога Л.Андрэева і Горкі, і Пляханаў, і іншыя абвінавачвалі ў перайманні Метэрлінка. Аднак А.Блок выказаўся пра гэта так: "Никакого Метерлинка нет в "Жизни человека", есть только видимость Метерлинка, то есть, вероятно, Андреев читал Метерлинка — вот и все".

Паводле сваёй тэматыкі і вобразнасці творы Купалы, Пшыбышэўскага і Андрэева істотна розняцца паміж сабой. Напісаная ў 1905 і пастаўленая У.Меерхольдам у лістападзе 1906 года драма "Адвечная казка" С.Пшыбышэўскага адлюстроўвае фантастычныя падзеі, што адбываюцца на каралеўскім двары ў XIII стагоддзі. Незадоўга да прэм'еры "Адвечнай казкі", якая, паводле водгукаў тагачаснай расійскай прэсы, "стала мастацкай сенсацыяй і перамогай новай драматургіі", у верасні 1906 года Л.Андрэеў у Берліне заканчвае свой твор "Жыццё чалавека", галоўны герой якога — таленавіты архітэктар.

Купалаўская "Адвечная песня" была напісана ў Бараўцах у жніўні 1908 года. Якраз у гэтых ваколіцах: у вёсках Сёмкава, Яхімаўшчына, Дольны Сноў працаваў з 1905 года да восені 1908 года на броварах і памочнікам вінакура Янка Купала. Наўрад ці ў тых умовах была ў паэта мажлівасць пазнаёміцца акурат са згаданымі творамі Л.Андрэева і С.Пшыбышэўскага.

Пэўная сугучнасць, якая адчуваецца ў агульнай задуме, мае, мяркую, іншыя вытокі. Спробу асэнсавання чалавечага жыцця ў карцінах шырокіх абагульненняў і ў абстрагаваных вобразах дыктаваў сам час, агульная грамадская атмасфера, што спарадзіла ў розных кутках Еўропы эстэтыку і паэтыку мадэрнізму.

Канешне, Янка Купала, відаць, чытаў іншыя творы Андрэева і Пшыбышэўскага, аднак няма ніякіх падстаў зазначыць уплывы ці палеміку з гэтымі пісьменнікамі там, дзе паэт такой мэты перад сабою не ставіў.

У 1929 годзе ў лісце да Л.М.Клейнбарта сам Янка Купала піша: "Сюжетами для моих поэм и драм большей частью послужили или действительные случаи из жизни, или фабула известных мне преданий, легенд, песен... Некоторые свои произведения я назову, откуда я заимствовал, т.е. что послужило замыслом.

...Фантазия: 1/ "Адвечная песня", 2/ "Сон на кургане", 3/ "У купальскую ноч", 4/ "На куццю"..."

Нягледзячы на шчырае захапленне сімвалістамі, у Янкі Купалы з маладых гадоў быў свой індывідуальны самастойны падыход да задач мастацтва. Ён выказаны ў многіх творах паэта, але з іх згадаем толькі верш "Песняру-беларусу", надрукаваны ў 1909 годзе ў "Нашай Ніве", дзе паводле меркавання некаторых даследчыкаў аспрэчваюцца пэўныя палажэнні "Confiteor" С.Пшыбышэўскага, своеасаблівага маніфеста новага накірунку, надрукаванага ў першым нумары часопіса "Їусіа" за 1899 год.

Пшыбышэўскі заяўляў: "Мастацтва не мае ніякай мэты, яно мэта само ў сабе, яно абсалют, бо ёсць адбітак абсалюту — душы".

*О, не хадзі к другім за радай, — У пушчы сонца не шукай! Дабудзь з сваёй душы ўсе праўды, сваіх дум, сэрца запытай..,* — разважаў Янка Купала ў форме дыялога з невядомым субяседнікам. І гэтым суразмоўнікам быў не Пшыбышэўскі, а, відаць, інтэлігент-адраджэнец нашаніўскай пары. Гэта ўскосна засведчыў той факт, што, пачынаючы са збору твораў 1926 года, гэты верш паэт змяшчае ў раздзеле "Сваім і чужым".

У гэтых радках найбольш істотным з'яўляецца цвёрда вызначанае імкненне ісці ў творчасці ўласным шляхам, не азіраючыся на аўтарытэты, не арыентуючыся на літаратурныя моды. Шчырасць гэтага сцвярджэння выяўляла ўласная практыка Купалы. Так, захапляючыся эстэтыкай сімвалізму, ён ні ў "Адвечнай песні", ні ў "Сне на кургане", ні ў якім з іншых сваіх сімвалісцкіх твораў нікога з заснавальнікаў плыні не наследаваў. Наадварот, арыентуючыся на нацыянальную эстэтычную традыцыю ў пэўнай ступені наватарскі парушыў чысціню канонаў сімвалізму: уводзіў у свае паэмы побач з абстрактнымі вобразамі-сімваламі канкрэтыку этнаграфічных дэталяў.

"Уздзейнічаць на грамадства павучальна альбо маральна, абуджаць у ім патрыятызм альбо грамадзянскія інстынкты з дапамогаю мастацтва, значыць зніжаць яго... зводзіць з вяршынь абсалюту да нікчэмнай выпадковасці жыцця; і мастак, які гэта робіць, не мае права называцца мастаком..." Гэта — яшчэ адна з высноў С.Пшыбышэўскага.

Водгалас яе выразна гучаў у нашаніўскай дыскусіі 1913 года. "Не да пацераў, калі хата гарыць", — сцвярджалі адны, "нашто каласы, калі няма васількоў", — пярэчылі другія. Аднак тады, у вершы "Песняру-беларусу" для Янкі Купалы было ні пра **што**, ні **як**, а **якая** будзе песня: родная ці чужая.

"За родну песню будзь ваякай, не жджы заплаты ад людзей, — заклікаў Купала, ставячы на першае месца нацыянальны момант, які быў абыякавым для сімвалістаў-еўрапейцаў, што былі ў нейкай ступені касмапалітамі, бо адчувалі найперш пагрозу для чалавека ўвогуле і, толькі ратуючы гэтага чалавека ўвогуле, спадзяваліся ўратаваць свайго супляменніка. На Беларусі было інакш. Тут пад пагрозай вынішчэння і вымірання быў беларус. І Купала гэта добра адчуваў, спасцігаў сваёй геніяльнай мастакоўскай інтуіцыяй.

У "Confiteor" С.Пшыбышэўскага былі не адны парадаксальныя меркаванні, што прыводзілі ў замяшанне не толькі ягоных ворагаў, але і сяброў. Было тут шмат і слушнага, і цікавага, што імпанавала многім ягоным сучаснікам, у тым ліку і Янку Купалу. Актуальным і сёння выглядае вызначэнне С.Пшыбышэўскім місіі мастака ў свеце. Ён гаварыў: "Мастацтва ў такім разуменні робіцца найвышэйшай рэлігіяй, і святаром яе становіцца мастак. Ён індывідуальны толькі ўнутранай моцай, з якой адлюстроўвае тоны душы, а ўвогуле сам паводле сябе з'яўляецца касмічнай метафізічнай сілай, праз якую выяўляецца абсалют і вечнасць".

"Пясняр слуга слугі усякай, Пясняр і цар усіх цароў!" —сцвярджаў і Янка Купала, уздымаючы паэта да касмічных вышынь. Але Купала не быў бы Купалам, калі б у яго не адбывалася сінтэзу агульнага і канкрэтнага, касмічнага і зямнога, узнёсла-абагульненых сімвалаў і рэальных грамадскіх патрэб свайго краю. "Шчаслівы ты ці нешчаслівы, будзі сыноў сваёй зямлі, над беларускай соннай нівай нязгасны светач распалі!". Так вось, у такім духу, завяршае ён свае развагі пра касмічна-метафізічную місію мастака на беларускай зямлі.

**Галіна ТЫЧКА**

# "НАДЗЬКА, ДАЕШ ПАРЫЖ!.."

***Гадоў трыццаць таму, працуючы ў Міністэрстве культуры БССР, калі міністрам быў Міхаіл Мінковіч, я пазнаёміўся з французскай мастачкай Надзяй Лежэ. Так атрымалася, што ў складзе дэлегацыі я суправаджаў яе ў паездцы ў вёску Зембін Барысаўскага раёна, на яе радзіму. Дарэчы, да гэтага знаёмства я нават і не чуў імя гэтай жанчыны, хаця імя яе знакамітага мужа, вялікага французскага мастака Фернана Лежэ, які памёр у 1955 годзе, было шырока вядома ва ўсім свеце.***

Здаецца, гэта была трэцяя паездка Надзеі Пятроўны на сваю радзіму, якую яна пакінула ў 1919 годзе, у 16-гадовым узросце. Першую яна здзейсніла на машыне ў 1960 годзе разам са сваім сябрам і памочнікам Жоржам Бак'е і сынамі Марыса Тарэза — Жанам і Полем.

Пазней яна сказала, якое радаснае пачуццё авалодала ёю пры перасячэнні савецка-польскай мяжы: "Адкуль гэтае пачуццё? Ад усведамлення, што ты на сваёй зямлі, на зямлі Радзімы? Ёсць у Францыі такая ж зямля. І нават бярозы ёсць. І квітнеюць на ёй і сланечнікі, улюбёныя кветкі Ван Гога, але Ван Гог любіў сланечнікі Праванса, і нічога з гэтым не паробіш. І не заменіш. Гэта як у маленстве: дотык мацярынскай рукі не зблытаеш ні з адной, самай пяшчотнай рукой на свеце. Ні з адной. Людзі паміралі, сціснуўшы ў руцэ прыгаршчу роднай зямлі".

Людзі ў ладанках на грудзях насілі прыгаршчу роднай зямлі. Ды і я жыла, не выпускаючы яе з рук. Мама казала: "Мілы той куток, дзе адрэзаны пупок", і мой "куток", край мой пачынаецца з Брэста..."

... Па дарозе ў Зембін яна распавяла пра сваю самую першую сустрэчу з роднай вёскай, дзе памерлі яе бацькі, так і не дачакаўшыся дачку, дзе чакалі яе сёстры Жэня і Рая, браты Уладзімір і Пётр: "Вельмі хвалявалася, як мяне сустрэнуць. Мы дарослыя, мы сталыя, не бачыліся амаль 40 гадоў... І першыя словы сястры Жэні, уяўляеце? — былі: "Як ты вырасла, Надзя!"

Неўзабаве адбылася другая паездка Надзеі Пятроўны ў Зембін. Праўда, толькі на некалькі гадзін, якія яна правяла з землякамі ў калгасе "Зара камунізму". А цяпер вось — трэцяя.

Да гэтай сустрэчы яна рыхтавалася асабліва старанна. Везла ў СССР падарункі: сотні рэпрадукцый з шэдэўраў сусветнага жывапісу. Рэпрадукцыі былі выкананы на найвышэйшым узроўні, дакладна перадавалі не толькі ўсе нюансы колеру, але і характар мазка і нават асобныя разбуральныя сляды часу — шчыліны-кракелюры, бляклась фарбаў і да т.п.

Гэтая калекцыя потым пабывала ў складзе перасоўных выстаў у многіх гарадах і вёсках Савецкага Саюза, нават у Сібіры. А частку твораў Надзя Лежэ падарыла Зембінскай школе і Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР, дзе яны захоўваюцца дасюль...



Старыя мінчукі памятаюць гэтую выставу ў сталіцы: некаторыя гледачы дасюль перакананыя, што гэта — арыгіналы твораў...

Мы шмат пра што гаварылі тады з Надзеяй Пятроўнай. Пра яе дзіўны лёс, варты захапляючага рамана. Пра яе творчасць. Пра яе сяброўства з Шагалам, Пікаса, Бракам, Тарэзам, Кашэнам. І, безумоўна, пра Фернана Лежэ...

Дарэчы, у Мінску яна вяла перамовы з міністрам культуры і аддзелам ЦК КПБ наконт таго, каб на фасадзе мінскага Палаца спорту выканаць паводле яе эскізаў манументальную мазаіку. За яе кошт. Аднак перамовы ні да чаго не прывялі: ніхто з тагачасных "адказных" за культуру дзяржаву не рызыкнуў прыняць "прапанову замежнай грамадзянкі", хаця Надзя Лежэ была камуністкай. У наступным матэрыяле я выкарыстаў не толькі запісы пра мае сустрэчы з Надзеяй Пятроўнай Хадасевіч-Лежэ, але і фрагменты яе ўспамінаў, апублікаваных у свой час у Маскве ў кнізе Л.Дубенскай "Распавядае Надзя Лежэ"...

Дасюль памятаю: яе валявы, скуласты твар, гладка зацягнутыя ў пучок валасы, чорны касцюм, шырокі мяккі шалік праз плячо, французскую элегантную сумачку і туфлі на вельмі высокіх абцасах...

Такмі чынам...

*Са старых запісаў:*

**— Надзея Пятроўна, як вам, дзяўчынцы з беднай сялянскай сям'і, з забытай Богам правінцыі, удалося трапіць у Парыж?**

— О, гэта доўгая гісторыя! Сапраўды, наша вялікая сям'я — у мяне было дзевяць сясцёр і братоў — жыла вельмі бедна. Тата гандляваў гарэлкай у казённай крамцы за пяць рублёў жалавання, мама была хатняй гаспадыняй, выхоўвала дзяцей. Але, колькі сябе памятаю, я заўсёды малявала. Больш нічога не прываблівала, нават дзіцячыя забавы. Але не думайце, што я была такая сціплая дзяўчынка — на вёсцы мяне клікалі "Надзька-казак". З маленства была прывучана да працы. Ведаеце, іду па лесе, вочы — у зямлю, шукаю грыбы альбо збіраю суніцы, капаю бульбу — сонца б'е ў галаву, а ў думках у мяне толькі адно: хачу быць мастачкай, хачу і ўсё тут! Напэўна, лёс...

**— І што было потым?**

— Потым пачалася вайна, і нашу сям'ю занесла ў расійскае мястэчка Бялёў. І там я выпадкова натрапіла на нейкі часопіс, які невядома адкуль апынуўся тут. У часопісе быў надрукаваны артыкул пра французскі жывапіс і пра Парыж — цэнтр вялікіх мастакоў. Вось тады, мабыць, гэтае дзіўнае і прыцягальнае слова "Парыж" запала ў маю душу. На маё шчасце, у былым купецкім доме адкрыўся дом мастацтваў. І працавалі тут некалькі студый. Я запісалася адразу ў дзве — мастацкую і балетную. І доўгі час з захапленнем і асалодай займалася тут маляваннем і танцамі. Памятаю, неяк змайстравала сабе са старых абрэзкаў туфлі для танцаў, а грубую, абгортачную паперу для малявання я здабывала сабе сама..

Але Парыж не даваў Надзеі спакою. Гэта было нейкае дзіўнае насланнё. Што гэта — мроя? Міраж? Хвароба? А бацькі настойвалі: кінь маляванне, лепей мы цябе ўсталюем у канцылярыю справаводкай. Чалавекам, маўляў, станеш. І Надзя, каб не засмучаць бацьку і маці, пайшла туды. Цэлымі днямі пісала нейкія сухія справаздачы, а на маленечкіх аркушыках, што ляжалі побач, малявала, але "па дарозе выкідвала іх, і яны ляцелі па паветры, нібыта песні".

Неўзабаве Надзея даведалася, што ў Смаленску адкрыліся Вышэйшыя дзяржаўныя мастацкія майстэрні. І тут ужо ёй стала не да канцылярыі. Кінула ўсё і ўпотай ад бацькоў дабралася да Смаленска. А ёй было ўсяго 15 гадоў.

Адшукала гэтую ўстанову, а там — "калі ласка, здавайце іспыт". Спачатку разгубілася, але што паробіш? Гэта было, як казала Надзея Пятроўна, "першае сур'ёзнае выпрабаванне ў маім жыцці". А жыла яна на вакзале, у кінутым вагоне. Безумоўна, галадала, але падбадзёрвала сябе песняй: "Не шуми ты, лес-дубрава, над моею головой..."

На іспыт педагог Уладзіслаў Страмінскі паставіў перад ёй мадэль. Ну што ж — мадэль, значыць, мадэль. Намалявала. Нават сама гэтага не чакала. Прынялі. Зрабілася студэнткай. А потым з Віцебска прыехаў Казімір Малевіч, арганізатар "УНОВИС"а. Страмінскі разам з жонкай Кацярынай Кабро ўзначаліў Смаленскі філіял Віцебскіх сцвярджальнікаў новага мастацтва.

*Са старых запісаў:*

**— Як вы пазнаёміліся з Малевічам?**

— Раней я не ведала нават пра яго існаванне. Аднойчы сядзела ў класе, рыхтавалася да заняткаў. Уваходзіць чалавек і чамусьці адразу — да мяне. Я выціснула фарбы на палітру, а ён — гэта быў Казімір Севярынавіч — саскроб мастыхінам маю фарбу. "Кіньце, — кажа, — гэту вашую ружовую, блакітную, у вас ёсць вохра, чырвоная, чорная, белая... І не патрэбныя нікому "карцінкі" і духмяныя ружы. Гэта ўсё мерцвячына... Я вам адкрыю новыя шляхі!" Ну, думаю я, мы закліканы ісці новымі шляхамі! Мы, будучыя мастакі, пачыналі адчуваць сваю каштоўнасць.

**— І ў чым была сутнасць вучэння Малевіча?**

— Калі казаць проста, дык, на яго думку, трэба знайсці ўзаемасувязі паміж двума прадметамі ў прасторы — Зямлёй і Месяцам: паміж імі можа быць збудаваны новы, супрэматычны спадарожнік, абсталяваны ўсімі патрэбнымі элементамі. Ён іх спалучыць і будзе рухацца па арбіце, утвараючы свой новы шлях. Рух па прамой лініі да якой-небудзь планеты не можа быць пераможаны інакш, чым праз кальцавы рух прамежкавых супрэматычных спадарожнікаў. Вам зразумела? Гэта значыць, рух нябесных свяцілаў уплываў на фарматворчасць, завоблачныя высі гралі на палотнах...

**— І як вы ўсё гэта ўбіралі ў сябе?**

— Менавіта мне нябесны купал быў бліжэйшы за звод тэарэтычных і філасофскіх пабудоваў Малевіча. Наслухаўшыся ягоных гутарак, я часта блукала па вуліцах, не бачачы дарогі, закінуўшы галаву і скіраваўшы вочы ўгару, нібыта магчыма было ўвачавідкі пабачыць у далёкай казачнай прасторы імклівыя конусы і прастакутнікі будучыні...



Такім чынам Надзя Хадасевіч ішла проста ад малочнага вядра да жывапіснай фарматворчасці, ад зямлі-карміцелькі да неба, да космасу. І малявала... "Рух геаметрычных форм у прасторы", "Рух на Месяцы", "Палёт геаметрычных фігур".

Але галоўнай апорай для Надзеі былі не тэарэтычныя сентэнцыі аўтара "Чорнага квадрата" — на яе падсвядома ўздзейнічала тое, што атачала з дзяцінства: вышытыя ручнікі, узорыстае пляценне, паласатыя дываны, спалучэнні чыстых колераў і ліній народнага мастацтва.

Аднойчы Малевіч сказаў Надзі: "Вось вазьміце прэс-пап'е і ў думках раскладзіце яго на часткі. З сярэдзіны зірніце. Адкрыйце прадмет". І гэтая праца, яе абстрактнае палатно "Прэс-пап'е" з'явілася натуральным сплавам дэкаратыўна-народнага мастацтва і формы ўяўлення, якая яго свабодна арганізуе.

Надзю хвалілі. Ішлі ёй насустрач. Даведаўшыся, што яна туліцца на вакзале, Страмінскі перасяліў яе ў майстэрні, дзе ў адным з пакояў фіранкай ёй аддзялілі кут.

**Надзя Лежэ:** "... Сапраўднае чалавечае жытло! Калі Казімір Севярынавіч затрымліваўся ў Смаленску і спазняўся на віцебскі цягнік, ён начаваў у маім куце, спаў на маім ложку, а мяне Страмінскі і Кабро ўкладвалі ў сваім пакоі на падлозе..."

Але аднойчы Малевіч абвясціў, што ягоны "квадрат у квадраце" — цяпер "белы на белым" — завяршальная кода ў жывапісе. Гэта значыць, жывапіс мёртвы, надышоў час для іншага. Трэба шукаць характар эпохі ў пабытавых рэчах — "новыя формы для новага побыту" — трэба ўкараняць мастацтва ў прамысловасць, у архітэктуру, у кінематограф. "Поўнач мастацтва блізкая, усё скончана з жывапісам і са скульптурай", — абвясціў маэстра.

Для Надзі гэта прагучала як пахавальная малітва. Як жыць — без жывапісу? Яна ж ім жыве і хоча жыць усё жыццё! А цяпер, значыць, ні кроку па гэтым шляху?

**Надзя Лежэ:** "Колькі начэй праплакала ў сваім куце, знішчаная, разгубленая... Ну куды ж цяпер, куды? Загінула ты, Надзька-казак, бедная Надзя... І пабегла я тады ў бібліятэку, пачала чытаць пра архітэктуру, пра кіно як пра новых, невядомых багоў... І раптам трапіў на вочы часопіс "Esprit nouveau" з рэпрадукцыямі невядомага мне Фернана Лежэ. Гэта было штосьці надзвычайнае! Адшукала французска-рускі слоўнік, нейкім чынам, з дапамогай бібліятэкара разабралася з тэкстам і ўцяміла, што Лежэ моцна пашырае межы жывапісу і верыць, што жывапіс павінен напаўняць усю атмасферу жыцця людзей і што для гэтага існуюць новыя шляхі. І Лежэ зрабіўся для мяне нібыта выратавальнікам, які супрацьстаяў Малевічу".

"Ці жывы гэты мастак Фернан Лежэ?" — папыталася Надзя ў Казіміра Севярынавіча. — "Жывы", — няўважліва кінуў Настаўнік.

Ішоў 1919 год. Надзеі — шаснаццаць. Што рабіць далей? І раптам Надзя даведваецца, што яе знаёмыя збіраюцца ў Варшаву. І адразу думка: трэба ехаць з імі. Праз Варшаву — у Парыж! Атрымаўшы права ехаць у Варшаву, дзяўчына сабрала фарбы, пэндзлі, малюнкі, старыя балетныя туфлі і, напісаўшы бацьку дадому: "Не турбуйцеся, не шукайце, чакайце лістоў. Ваша дачка Надзя", пакінула Смаленск. З вузельчыкам, дзе былі кавалак хлеба, некалькі вараных бульбін і селядзец, яна, неўтаймаваная і дзівакаватая, выправілася за сваёй Сіняй птушкай. У чужую краіну, да чужых людзей.

**Барыс КРЭПАК**

***(Заканчэнне будзе.)***

*1. Надзеі Хадасевіч — 16 гадоў.*
*2. Н. Лежэ. "Нацюрморт".*

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА

**_У “Культуры” за 8—14 жніўня г.г. было надрукавана інтэрв’ю нашага карэспандэнта з ізраільскім журналістам Янам Тапароўскім, які доўгі час займаўся журналісцкім даследаваннем справы аб забойстве Іегуды Пэна. Знаходзячыся ў Віцебску, ён завяршаў сваю працу: знаёміўся з архіўнымі матэрыяламі, сустракаўся з вучнямі І.Пэна, са сведкамі судовага працэсу, які ўзрушыў усю краіну ў 1937 годзе, а таксама з супрацоўнікамі КДБ і МУС._**

**_Яшчэ тады, у ліпені, Ян Тапароўскі паабяцаў даслаць нам серыю публікацый свайго расследвання, надрукаваных у ізраільскай газеце “Окна”. Сваё абяцанне ён выканаў. На адрас рэдакцыі прыйшлі бандэролі з нумарамі газет і ліст, у якім, у прыватнасці, ён піша, што калі будзе апублікаваны гэты матэрыял, то “і вы, і мы зробім добрую справу”. Журналіст таксама паведаміў, што ізраільскія афіцыйныя і грамадскія колы мяркуюць звярнуцца праз пасольства РБ у Ізраілі да ўладаў Беларусі аб пераглядзе “Справы Пэна” і рэабілітацыі тых, хто быў, на думку журналіста, незаконна асуджаны ў 1937 г. у сувязі з забойствам вядомага беларускага і яўрэйскага мастака._**

**_З гэтага нумара мы пачынаем друкаваць з нязначнымі скарачэннямі матэрыялы журналісцкага расследавання._**


У доме Іегуды Пэна: справа — І. Пэн.

**ПАМЫЛКА БІЁГРАФАЎ**

Біёграфы-мастацтвазнаўцы, якія вывучаюць творчасць мастака Іегуды Пэна, не ведаюць не толькі падрабязнасцяў яго гібелі, але і дакладнай даты. Вось класічны прыклад. Г.Казоўскі — аўтар-укладальнік альбома “Шедевры еврейского искусства. Художники Витебска. Иегуда Пен и его ученики” (Рэкламна-выдавецкі дом “Имидж” у Маскве; год выдання — адсутнічае) — паведамляе: “У ноч з 1 на 2 сакавіка 1937 года Іегуда Пэн быў забіты ў сябе дома. Абставіны і матывы гэтага бессэнсоўнага забойства дасюль не праяўлены”.

Але Іегуда Пэн, па дакументах следства, быў забіты 28 лютага паміж 18 і 19 гадзінамі. А вось 1 сакавіка 1937 года, прыкладна а 10-й гадзіне раніцы, быў знойдзены труп Юрыя (Іегуды) Майсеевіча Пэна.

На працягу шасцідзесяці аднаго года даследчыкі і біёграфы (не лічачы Міхаіла Пісчулёнка — беларускага вучонага-архівіста, з працамі якога я знаёмы) нічога дакладна не маглі сказаць пра гэта забойства. Прычын на тое, як мне здаецца, дзве: частка мастацтвазнаўцаў лічыла, што “Справа Пэна” загінула ў час акупацыі Віцебска, іншыя ж, тыя, хто быў упэўнены, што “Справа Пэна” захавалася, не мелі магчымасці дабрацца да гэтай справы ў архіве.

**ДАПАМОГА ПАСЛА БЕЛАРУСІ**

Паўгода таму, калі я рыхтаваў матэрыял “Домік у стылі ко-ко-ко”, я даведаўся што Генадзь Міхайлавіч Лавіцкі — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Ізраілі — мае дачыненне да цікавай гісторыі, звязанай з домікам Марка Шагала. У час нашай сустрэчы ён расказаў наступнае: у 60-я гады ўлады Віцебска звярнулі ўвагу на тое, што замежныя турысты падчас наведвання горада чамусьці праяўляюць павышаную цікавасць да нейкага дамка. Высветліць, у чым справа, даручылі яму — Генадзю Міхайлавічу. Перад ім паставілі наступнае заданне: дамок знайсці, агледзець — і зрабіць адпаведныя высновы. Г.М.Лавіцкі патраціў на пошукі дамка некалькі гадзін, а знайшоўшы, убачыў нічым не прыкметнае, абшарпанае збудаванне, у якім пражывала некалькі сем’яў. Выснову з убачанага (улічваючы цікаўнасць замежнікаў і мясцовых прыхільнікаў рашучых мер) можна было зрабіць простай. Дамок знесці, бо ён псуе гарадскі пейзаж. Але Генадзь Міхайлавіч зрабіў інакш — напісаў у сваёй дакладной, што дамок трэба захаваць і адрамантаваць, пасля чаго перадаць у распараджэнне дзяржаўных інстанцый, а жыхароў перасяліць у новыя кватэры. Вось так, дзякуючы разумнаму падыходу, і захаваўся дамок — цяпер дом-музей мастака Марка Шагала.

У размове з паслом і ў сваім артыкуле я закрануў таксама гісторыю забойства Іегуды Пэна — настаўніка Марка Шагала. І папрасіў суразмоўцу дапамагчы мне азнаёміцца са “Справай Пэна”.

Праз нейкі час Максім Уладзіміравіч Рыжанкоў — другі сакратар пасольства Рэспублікі Беларусь — паведаміў мне: дакументы вас чакаюць.

Але ўжо да гэтага моманту я пачаў атрымліваць водгукі чытачоў пра домік Шагала, а сярод іх — сведчанні відавочцаў — жыхароў Віцебска, якія прысутнічалі на судзе над “забойцамі мастака Пэна”. А потым былі тэлефонныя перамовы і нечаканыя сустрэчы.

Але ўсё па-парадку, бо мне здаецца, што чытач павінен акунуцца ў атмасферу таго часу, дакрануцца да тых пачуццяў (часам супрацьлеглых), якія адчувалі жыхары Віцебска, родзічы і вучні Іегуды Пэна, калі яны даведаліся аб афіцыйнай версіі забойства Іегуды Пэна.


І. Пэн. Вуліца ў Віцебску.

**СВЕДЧАННІ ЧЫТАЧОЎ**

**Міхаіл Райхель**, ізраільскі мастак (з успамінаў):

*“У 1925 годзе мой дзядзька зацікавіўся маёй творчасцю і вырашыў займацца маёй адукацыяй. Мяне і свайго сына ён прывёў у майстэрню свайго сябра — мастака Юрыя (Іегуды) Майсеевіча Пэна.*

*Праз тры гады, у канцы 1928 або на пачатку 1929 г., я зноў прыйшоў да Юрыя Майсеевіча і стаў наведваць яго студыю.*

*Мама дала мне прыгожую драўляную скрыню, якая засталася пасля рэквізаванага серабра. Прыстасаваў палітру і атрымаўся прыгожы эцюднік. Юрый Майсеевіч падарыў мне плоскі пэндзаль са шчаціны. Фарбы і аліфу купляў у краме, якую ўтрымоўваў жывапісец-шыльдавік Аліфсон. Пачаліся галодныя 30-я гады. Пэўны час з Юрыем Майсеевічам жыла яго сястра, потым яе не стала. Зрэдку прыходзілі сябры і знаёмыя, гулялі ў шахматы, пра штосьці ціха размаўлялі ў суседнім пакоі. Я адчуваў, якім адзінокім быў мастак. У пакоі, дзе мы звычайна працавалі, паставілі жалезную пячурку-"буржуйку", выпусцілі ў вакно жасцяную трубу. Юрый Майсеевіч сам гатаваў на гэтай пячурцы бульбу, а потым напісаў аўтапартрэт за гэтым заняткам.*

*У 1937 годзе ў часопісе “Искусство” прачытаў некралог: трагічна загінуў мой дарагі настаўнік Юрый Майсеевіч Пэн. Я ўжо жыў у Ленінградзе, калі даведаўся пра страшную гібель Юрыя Майсеевіча. Ніколі не верыў афіцыйнай версіі гэтага бесчалавечнага злачынства: забойства сякерай роднага дзядзькі — маладой дзяўчынай і яе жаніхом. Дзеля спадчыны?! Дык, акрамя яго твораў, у Юрыя Майсеевіча нічога не было...”*

Прачытаўшы ўспаміны Міхаіла Райхеля, я звязаўся з ім па тэлефоне, і ён расказаў мне, што некалькі гадоў таму надрукаваў у адной з газет свой ліст, у якім заяўляў, што ні тады, ні сёння не верыць у тое, што Пэна зарэзалі родзічы. У гэта, сцвярджае Міхаіль Райхель не верылі і тыя, хто ўваходзіў у бліжэйшае атачэнне Пэна:

*— Я ўжо ў тым узросце, калі мяне цікавіць толькі праўда. Я быў знаёмы з мастаком Саламонам Гершовым, ён таксама вучыўся ў Пэна і таксама з Віцебска. У тыя гады мы з ім гутарылі з прычыны забойства Пэна, зачыняліся і размаўлялі. І я, і ён — мы не верылі, што Пэна забілі родзічы. Саламон Гершоў, у сваю чаргу, сябраваў з адным маскоўскім кампазітарам, на жаль, цяпер не магу ўспомніць яго прозвішча. Дык вось: яны з Гершовым таксама гутарылі на гэтую тэму і таксама не верылі афіцыйнай версіі смерці Пэна.*

**Якавіцкая Хая** (Бат-Ям), вытрымкі з ліста, надрукаванага ў “Окнах” ад 14.05.98:

*“Я нарадзілася ў Віцебску ў 1916 годзе. У 1937 г., будучы студэнткай музычнай вучэльні, я стала сведкай падзей, звязаных з трагічнай гібеллю Пэна.*

*Забіла Пэна яго пляменніца, маладая дзяўчына, дачка сястры Пэна. Ні імя, ні прозвішча я ўжо не памятаю, і ў далейшым буду яе называць Р.*

*Забіла, зарэзаўшы яго нажом, спадзеючыся атрымаць яго грошы, але глыбока памылілася — грошай у яго не было.*

*Пэн быў знакамітым як мастак не толькі на Беларусі, але жыў вельмі сціпла, калі не бедна, быў адзінокім, і ўсё ягонае багацце заключалася ў карцінах.*

*Адбыўся суд — не суд, а нават цэлы працэс. Горад быў узбуджаны, Пэна ведаў увесь Віцебск, і мы ганарыліся, што ў нас жыве такі мастак. Суд ішоў вельмі доўга, праходзіў ён у клубе трыкатажнай фабрыкі “Клара Цэткін” (пасля вайны на гэтым месцы пабудавалі драматычны тэатр імя Якуба Коласа).*

*Клуб знаходзіўся на беразе Віцьбы, блізка ад нашай вучэльні. І ў вольныя ад заняткаў гадзіны мы імкнуліся быць у клубе або хаця б каля яго, каб ведаць, што там адбываецца. Раўнадушных не было, клуб быў поўны, зала вялікай, а жадаючых прысутнічаць на працэсе было яшчэ больш. Калі прывозілі Р., міліцыя нікога не падпускала да машыны. Я была ў клубе ў той момант, калі дапытвалі маці Р. Суддзя задаваў пытанні, і я запомніла адзін яе адказ: “Мая дачка курыцу нават не можа зарэзаць, не тое што чалавека”. У судзе было даказана, што маці была ў курсе вымагальніцтва Р. грошай у Пэна, і суд потым даў тэрмін і маці.*

*Па гэтай справе праходзіў хлопец, з якім сябравала Р. (калі мне памяць не здраджвае, дык яго звалі Міша Аліфсон).*

*На судзе Р. заявіла, што Міша быў у курсе ейных планаў у адносінах грошай дзядзькі. Паводзіла сябе Р. з выклікам, нават нагла, вельмі імкнулася ўцягнуць у гэтую гісторыю Мішу Аліфсона. Было вакол гэтай справы шмат размоў, крыватолкаў.*

*З таго часу прайшло шмат гадоў. Мне 82 гады, і, вядома, вельмі многія факты з гэтай справы ўжо не запомніліся. Але вось памятаю, што ішлі размовы пра тое, што Міша, даючы паказанні, паведаміў, “што аднойчы, прыйшоўшы дамоў да Р., не заспеў яе дома, і калі яна прыйшла, ды чамусьці была ў пальчатках. Было лета, і ён запытаў, чаму яна ў пальчатках. Р. нічога не адказала, пайшла на кухню, зняла пальчаткі, стала мыць рукі, якія былі ўсе ў крыві”, што было потым, ужо не памятаю, але, як ні імкнулася Р., Мішу суд апраўдаў, і калі скончыўся суд, то Мішу публіка вынесла з залы на руках.*

*Вядома, мы былі вельмі радыя, што Мішу апраўдалі. Р. атрымала вялікі тэрмін, маці — меншы, і абедзве накіраваліся ў турму.*

*Пахаванне Пэна вылілася ў сапраўдную дэманстрацыю. Труна была ўстаноўлена ў будынку Палаца прафсаюзаў, што на Плошчы Свабоды. Ён захаваўся і пасля вайны, там быў абкам або гаркам партыі. Некалькі дзён развітваліся гараджане з мастаком. Студэнты мастацкай вучэльні і нашай — музычнай — вучэльні стаялі ў ганаровым каравуле. Гучала жалобная музыка, іграў аркестр з гарадскіх музыкантаў і нашай вучэльні. Аркестр іграў без перапынку, і мы змянялі адзін аднаго.*

*Архівы ў Віцебску не захаваліся. Горад быў разбураны на 98 працэнтаў, і калі жывы хтосьці з родзічаў Пэна, малаверагодна, што яны адгукнуцца, бо ганьба легла на ўсю радню: у каго ўзнікне жаданне ўспамінаць тую трагедыю і ўсё, што з гэтым было звязана?*

*Калі пачалася вайна, горад сталі бамбіць, пачалася паніка, эвакуіравалі заводы і фабрыкі, выязджалі ўстановы, усе імкнуліся пакінуць горад любым спосабам, і пайшлі чуткі, што з турмы выпусцілі ўсіх, і калі гэта было на самой справе, то магчыма, што і Р. здолела выехаць і жывая. Вось і ўсё, што захавала мая памяць з гэтай прычыны”.*

**Соня Рэйзіна** (Кір’ят-Моцкін):

*“Я 1916 года нараджэння. І таксама, як і Хая Якавіцкая, ліст якой вы надрукавалі, з Віцебска. Я, як і яна, прысутнічала на працэсе. Абвінавачваемых судзіла выязная сесія. Суд праходзіў, як я памятаю, у клубе металістаў, які быў на беразе Дзвіны. Сакратаром суда была жанчына (не памятаю прозвішча), але ведаю дакладна, што яна працавала сакратаром у судзе, які знаходзіўся ў доме на Ваказальнай вуліцы, на другім паверсе.*

*Забілі Пэна яго родзічы, але не магу ўспомніць ні іх прозвішчаў, ні імёнаў. Чаму я прысутнічала на судзе? Калі я была маленькай, то вучылася ў яўрэйскай школе, якая знаходзілася на вуліцы Гогалеўскай. Побач са школай жыў мастак Пэн. (Памяць пані Рэйзінай не адмаўляе: мастак Іегуда Пэн жыў на Гогалеўскай вуліцы, у доме № 1. — **Я.Т.**)*

*Мне было тады гадоў 12—14. Нас, дзяўчынак, пасылалі ў дом да мастака, каб дапамагчы яму, г.зн. мы прыбіралі, гатавалі яму гарбату. Ён жыў адзін і сапраўды ў жабрацтве. У яго была кватэра, якая была застаўлена карцінамі. Сам ён быў невялікага росту, хударлявы, і вельмі сціпла, можна нават сказаць, бедна быў апрануты. Памятаю, да яго прыходзіў мастак і, калі не памыляюся, гэта быў Марк Шагал — таксама невялікага росту. Пэн яму паказваў сваю карціну, яны разглядалі яе, і Пэн яму штосьці тлумачыў. Але гэта было ў дзяцінстве, а калі адбылося забойства, мне ішоў 21-ы год”.*

**Ян ТАПАРОЎСКІ**

**(Працяг будзе.)**

Лішне казаць!

**З 15 па 21 верасня беларускі тэатр "Лялька" знаходзіўся, пэўна, на самым экзатычным сваім фестывалі. Не пабаяўшыся выпраўіцца ў далёкую дарогу ў "нешчаслівы", 13-ы дзень верасня, віцебская дэлегацыя за 2 дні пераадолела час і прастору і апынулася ў сталіцы Ірана. На календары быў 1377 год, але, нягледзячы на XIV стагоддзе, горад грунтоўна рыхтаваўся да цалкам сучаснага лялечнага свята. Уражаннямі ад яго дзеліцца мастацкі кіраўнік Беларускага тэатра "Лялька".**



# ЧАРОЎНАЯ ЗБРОЯ РЭЖЫСЁРА ВІКТАРА КЛІМЧУКА ПАЛЬНУЛА Ў ІРАНЕ



**У мінулым нумары мы абяцалі, што пасля вынікаў фестывалю "Белая вежа-98" уручым прыз "Рыцар тэатра" ад каманды "К". На гэты раз малюнак Мікалая Байрачнага перададзім мастацкаму кіраўніку віцебскага тэатра "Лялька" В. Клімчуку. Падабаецца нам гэты эстэт-рэжысёр не толькі ў творчасці, але і зорнай камандай акцёраў-аднадумцаў, якая разумее свайго патрона з аднаго толькі яго жэсту ці погляду... Ды й, увогуле, прыгожыя людзі гэтыя лялечнікі! Але ж, відаць, не за адну прыгажосць тэатр "Лялька" трыумфальна збірае ўзнагароды на кожным тэатральным фестывалі 97 - 98 года, у якіх браў удзел. Сёлета два Гран-пры за спектаклі "Брэменскія музыкі" ў конкурсе творчай моладзі і "Чароўная зброя Кензо" на "Белай вежы-98". Віншуем каманду Клімчука!**

**— Чым запомніўся гэты фестываль? Што ў ім для вас незвычайнага?**

— Да фестывальных мерапрыемстваў у Іране крыху іншы падыход, чым у нас, славян. У Тэгеран былі скліканы прадстаўнікі амаль 20 краін Еўропы, Азіі і Амерыкі. Вось дзе, здавалася б, цудоўная магчымасць пазнаёміцца з эстэтыкай тэатраў розных краін і народаў! Вось куды трэба ехаць вучыцца, набірацца вопыту! Але радаваліся мы дарма. Як высветлілася, знаёміцца з эстэтыкай і набірацца вопыту будзем не мы, прыезджыя, а самі гараджане. Менавіта для іх ладзіліся ўсе фестывальныя мерапрыемствы. На фестваль мы прывезлі спектакль "Чароўная зброя Кензо" паводле Міхася Супоніна, і за час гасцявання адыгралі яго 5 разоў у розных раёнах горада. Цікава, што пры гэтым усе немалыя залы былі поўныя. У горадзе за фестывалем сачылі ўсе. Кожны спектакль, наш у тым ліку, здымалі па некалькі кінакамер. Належалі яны розным кінакампаніям. Відаць, вельмі актыўна працавала і прэса, і крытыкі. Бо на апошнім, пятым спектаклі нашага тэатра было столькі народу, што колькасць прыстаўных месцаў у зале перавысіла колькасць стацыянарных.

**— Атрымліваецца, што на гэтым фестывалі ўдзельнікі толькі працавалі і зусім нічога не пагледзелі?**

— Асабіста мне ўдалося паглядзець чатыры спектаклі. Я бачыў выступленне бельгійца. Яго ная дэкарацыя нагадвала кніжку, якую можна было па-рознаму раскладваць і, адпаведна, будаваць на зменным фоне розныя карцінкі. Упэршыню ў жыцці пабачыў прадстаўленне В'етнамскага тэатра на вадзе, пра які шмат даводзілася чытаць. Відовішча захапляе сваёй прыгажосцю, але сюжэт адсутнічае. Кітайскі тэатр працаваў на шырме. Гэтае выступленне я б параўнаў з лялечным канцэртам. Адзін з лялечных тэатраў Ірана прапанаваў ценявы спектакль, які таксама не меў пэўнага сюжэта. Вобразы за экранам нараджаліся пры дапамозе рук, галавы, тулава акцёра. Канешне, усё гэта было вельмі цікава. Астатнія ўдзельнікі фестывалю, нягледзячы на свой напружаны графік работы, якім арганізатары надзялілі кожнага, таксама паспявалі паглядзець нейкія спектаклі. Вядома, пазнаёміцца з усёй фестывальнай праграмай немагчыма, але тое, што цікавіла найбольш, маючы пэўнае жаданне, пабачыць было можна. "Чароўную зброю Кензо" таксама глядзелі спецыялісты і калегі. У іх ліку і дзве самыя вядомыя актрысы з Тэгерана (на жаль, не запомніў іх імёны).

**— Якія ўражанні засталіся ад знаёмства з культурай і мастацтвам Ірана?**

— Да культуры ў Іране стаўленне асаблівае. Мабыць таму, што на апошніх выбарах у краіне перамог міністр культуры. Усе фестывальныя спектаклі, наш у тым ліку, прымалі вельмі цёпла. Перад сваім спектаклем мы кожны раз давалі лібрэта на мове фарсі. А ўвогуле ўспрыманне сцэнічнага мастацтва іранцамі вельмі падобна да японскага: ім падабаецца, калі на сцэну прыемна глядзець, любяць, каб была прыгожая карцінка. Іранцы — вельмі тэатральны народ. Нягледзячы на тое, што ў краіне нядаўна скончылася 10-гадовая вайна. На спектаклі прыходзілі не толькі сем'і, але і асобна дарослыя людзі. Часцей мужчыны, бо жанчыны заставаліся з дзецьмі. На адзін з нашых спектакляў прыйшла жанчына з дзіцем, якому не было яшча і года. Калі мы выказалі здзіўленне, нам растлумачылі, што казку прыйшла глядзець мама, а дзіця проста няма з кім пакінуць.

Увогуле ў гэтай краіне лялечнае мастацтва — ледзь не культавае. Бо рэлігія не вітае балет, не ў росквіце і мастацтва драмы. Будынак опернага тэатра ў Тэгеране ёсць, але, на жаль, што ўяўляе з сябе тэгеранская опера, пабачыць не давялося. Тэатральныя трупы ў Іране стабільныя (не так, як у Еўропе — на адзін сезон, ці, нават, на адзін спектакль). Але сваіх будынкаў тэатры не маюць. З-за гэтага і ў нас на фестывалі ўзнікалі пэўныя цяжкасці: мы працавалі ў палацах шахаў, дзе, натуральна, не было прадугледжана тэатральнае асвятленне ці гукавая апаратура.

Акрамя тэатра, іранцы часта наведваюць кіно. Ёсць свая эстрада. У чымсьці яна падобная да індыйскай, але выключна мужчынская.

**— Побыт і звычаі іранцаў, мякка кажучы, адрозніваюцца ад нашых. Ці ўзнікалі праблемы ў сувязі з гэтай неадпаведнасцю?**

— Да сутыкнення з іранскімі звычаямі мы рыхтаваліся вельмі грунтоўна: чыталі літаратуру, слухалі бывалых людзей. Але тое, што пабачылі на самой справе, пераўзышло нават самыя смелыя нашы фантазіі. Першае — гэта, натуральна, вопратка. Нашы жанчыны апрануліся, здавалася б, па ўсіх правілах: хустка, доўгія рукавы, спадніцы "па костачку"... Мы былі вельмі задаволеныя сабой і сваім гардэробам. Але калі наша стракатая кампанія вываліла з самалёта і пачала рух па вуліцах горада, на нас азіраліся нават дзеці. Іранкі маюць права на выбар каляровай гамы ў адзенні, але перавагу аддаюць чорнаму. Бо звяртаць на сябе ўвагу лічыцца непрыстойным. Мабыць таму, на другі ж дзень нашага гасцявання на ўсходзе кожная з жанчын тэатра "Лялька" атрымала ў вечнае карыстанне доўгі плашч няяркага тону. Хусцінку з галавы здымаць нельга нават у самую спякоту, бо мужчына, які знаходзіцца побач, можа палічыць сябе абражаным. Але самае цікавае, што дыктуе манеру апранацца такім чынам рэлігія. Іранскі нацыянальны касцюм далёка не такі доўгі, валасы не абавязкова хаваюцца пад галаўны ўбор, кофта аздоблена вышыўкай. Наватчымсьці нагадвае нацыянальны касцюм беларусаў. Мужчыны апранутыя звычайна, па-еўрапейску. Цікава, што ў горадзе праводзяцца і дыскатэкі. Праўда, там танцуюць толькі народныя танцы. Калі ж моладзь хоча адпачыць пад еўрапейскую эстраду, то робяць гэта дзесьці на кватэры.

**— А якім чынам складваюцца адносіны паміж мужчынам і жанчынай?**

— Гэта, напэўна, уразіла мяне больш за ўсё. Такіх трапяткіх адносін між мужам і жонкай я не сустракаў ні ў аднаго народа. Прычым знешне гэта нічым не выяўляецца: ідучы па вуліцы, мужчына не мае права трымаць жанчыну за руку, на людзях ніхто не цалуецца, выхады з крамы, месцы на прыпынку асобныя для мужчын і жанчын, у транспарце ёсць мужчынская і жаночая паловы. Але пра сваю жонку ці мужа іранцы гавораць з такой пяшчотай, з такім гонарам, што ім можна толькі пазайздросціць. На маю думку, у гэтай краіне жанчына, згубіўшы магчымасць ніць міні, набыла нешта значна большае.

**— А як жа тады мнагажонства?**

— Па законах кожны мае права на тры жонкі. Але гэтым правам фактычна ніхто не карыстаецца. У Іране лічаць, што калі ў сям'і ўжо дзве жонкі — гэта вельмі дрэнная сям'я, там не ўсё ў парадку. Паняцце "здрада" не разумеюць. Бо такіх выпадкаў проста няма. Як з боку жанчын, так і з боку мужчын. Скасаваць шлюб таксама вельмі няўгадна. Найперш для мужчыны. Бо сваю былую жонку пасля распаду сям'і ён павінен цалкам забяспечыць.

**— Той, хто чуў тут, на Беларусі, што "Лялька" паехала ў Іран, адразу ўзгадваў канфлікты з Афганістанам і, шчыра кажучы, хваляваўся за вашу бяспеку. Ці адчулі вы на сабе напружанасць палітычнай сітуацыі ў краіне?**

— Палітычныя праблемы Ірана нас не закранулі ніякім чынам. У горадзе, канешне, праходзілі мітынгі, у іх удзельнічалі і мужчыны, і жанчыны, але ўсё адбывалася вельмі ціха і спакойна. Да таго ж нашу дэлегацыю вельмі старанна ахоўвалі. Не таму, што нам не давяралі, за нас баяліся.

**— Узгадайце выпадак, які пакінуў самае моцнае ўражанне.**

— Я ніколі не выходзіў на сцэну так часта, як у Іране. Удзячная публіка выклікала рэжысёра літаральна пасля кожнага спектакля. І вось, аднойчы, пасля нашага чарговага выступлення, на вуліцы да мяне падыйшла маленькая дзяўчынка. Яна сказала, што атрымала вялікую асалоду ад спектакля і таму хацела б падарыць мне кактус. Бацькі тут жа купілі кветку, і я атрымаў гэты экзатычны падарунак. Натуральна, прывёз яго на Беларусь. Кактус ад маленькай іранскай дзяўчынкі, напэўна, самы дарагі для мяне сувенір.

**Размаўляла Вікторыя ДАШКЕВІЧ, Віцебск**





**Фота Генадзя Жынкова і артыстаў тэатра**

КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ** (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), **Анатоль ВЯРЦІНСКІ** (першы намеснік галоўнага рэдактара), **Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ядвіга ГРЫГАРОВІЧ, Аляксей ДУДАРАЎ, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Вольга ІПАТАВА, Міхаіл ПТАШУК, Алесь РАЗАНАЎ, Віктар СКОРАБАГАТАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ.**

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — **Надзея БУНЦЭВІЧ, Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК, Алесь ФІЛІПОВІЧ, Валерый ШЫХАНЦОЎ**
Спецкарэспандэнты: **Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ, Зміцер ВІШНЁЎ, Таццяна КОМАНАВА, Сяргей МІНСКЕВІЧ**
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — **Генадзь ЖЫНКОЎ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧАРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3273.

Падпісана ў свет 08.10.98. у 16.30.
Замова 5944.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**